ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№35 (2541)

28 жніўня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## АДПАЧЫНАК НА МІНСКІМ МОРЫ



Беларускі комплекс "Юнацтва".

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.

(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).

### У БЕЛАРУСАЎ ІРКУЦКА

## ГЭТА НАШ ДЗЕНЬ

31 мая беларусы Усходняй Сібіры адсвяткавалі першую гадавіну ўтварэння "Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага". У гэты ж дзень год таму прайшоў I з'езд беларусаў Іркуцкай вобласці, на якім былі вызначаны асноўныя мэты, задачы і накірункі дзейнасці таварыства. Тады былі зацверджаны і назва, і эмблема, і асноўныя палажэнні статута. З'езд праходзіў у факультэцкай клініцы Іркуцкага медінстытута, які ўзначальвае прафесар медыцыны, лепшы і самы знакаміты нейрахірург Усходняй Сібіры Анатолій Рэут. Яго радзіма — горад Слуцк. Але так здарылася, што яшчэ ў маладосці ён пакінуў свой родны кут і, шмат пабадзяўшыся па свеце, асеў у Іркуцку. Тады на той з'езд сабралася не шмат людзей — 23 чалавекі. Аднак яны заклалі падмурак для пабудовы "вялікага дому", у які пачалі збірацца суродзічы, выгнанцы лёсу — эмігранты з Беларусі.

І вось мінуў год. Сёння таварыства мае каля 120 сяброў. Праўда, прыехаць на свята змаглі не ўсе. Усё ж такі гарачая пара: каму трэба было на агарод, хтосьці ўжо паехаў у адпачынак і г. д. Аднак у зале Абласнога цэнтра дзіцячага турызму (дзе адбывалася гэта мерапрыемства) людзей было шмат.

Свята пачалося з невялікага ўрачыстага пасяджэння, якое адкрыла сябар Рады ІТБК Аліна Грыбаноўская. Яна прачытала вядомы ўрывак з паэмы Я. Коласа "Новая зямля" — "Мой родны кут". Гэтым быў зададзены тон урачыстаму пасяджэнню і наогул усяму святу. Сапраўды, словы беларускага песняра, які так цудоўна апісаў нашу Бацькаўшчыну, запалі ў сэрца ўсіх прысутных. Адразу ўзнікла нейкая пучнасць, настальгічны настрой і жаданне быць разам. Амаль пра гэта і пайшла далейшая гаворка.

Першым узяў слова старшыня Рады ІТБК, доктар эканамічных навук Генадзь Соніч. Ён ад шчырага сэрца павіншаваў прысутных са святам, адзначыўшы пры гэтым, што дзень 31 мая павінен стаць святочным днём усіх іркуцкіх беларусаў, бо ў гэты дзень здарылася сапраўды вялікая падзея. Невялікая жменька аматараў, прайшоўшы цяжкія выпрабаванні, здолела не толькі аб'яднаць найбольш свядомых беларусаў, але і паказаць усяму Іркуцку жыццяздольнасць і перспектыўнасць нашага таварыства. Спадар Соніч упэўнены, што ў хуткім часе ІТБК значна павялічыцца колькасна і якасна і неўзабаве суполкі ІТБК узнікнуць па ўсёй Усходняй Сібіры. І лепш за ўсё пацвярджае гэта той факт, што некаторыя кандыдаты ў губернатары Іркуцкай вобласці зацікавіліся нашым таварыствам і просяць аб падтрымцы іх на выбарах.

Другім выступоўцам быў намеснік старшыні рады ІТБК

(Заканчэнне на 4-й стар.).

### АД ПЕРШАЙ АСОБЫ

## «БАЛАМУТЫ» ЕХАЛІ Ў АЎЦЮКІ

Шчыра кажучы, яшчэ два гады назад я і назвы такой геаграфічнай не ведала — Аўцюкі. Ды, напэўна, не толькі я, а і большасць менчукоў. Але ж па ініцыятыве цікавых і вясёлых людзей адбылася здзіўляючая падзея: нарадзілася і гукнула смехам на ўсю рэспубліку свята народнага гумару. Вось тады ўсе і даведаліся, што ёсць на Беларусі такая мясціна — Аўцюкі, ды ёсць такія людцы — аўцюкоўцы, хаця і сціплыя, але ж языкастыя, для якіх заўсёды лепш жартаваць, чым гараваць.

Свята тое ўпершыню адбылося два гады назад, а хросным бацькам яго стаў вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Ліпскі. Сам родам з Гомельшчыны, ён добра ведаў капарытных мясцовых жыхароў, любая гаворка якіх заўсёды аздоблена смачным народным гумарам. Ва ўсім яны, аўцюкоўцы гэтыя, непадражальныя, нават сябе так называюць: мужчынка тут — Каласок, а кабетка Калінкай завецца... Закаханы ў людзей гэтых, вырашыў Уладзімір Ліпскі дазнацца ды ўсім расказаць, адкуль, з якой крыніцы бяруць вяскоўцы свой прамяністы аптымізм, з якіх пластоў бруіцца гэта жыццярадаснасць, гэта эмацыянальная падзарадка, якая чаруе і захоплівае ўсіх, хто сутыкнецца з імі. Тады і паехаў да аўцюкоўцаў "з вялікім мехам пасмех", а вынікам тых падарожжаў стала пранізлівая душэўная кніжка "Аўцюкоўцы", дзе з цеплынёй, павагай і любоўю аўтар расказаў пра Калінак ды Каласкоў, якія гаруюць і жартуюць. І такімі жывымі, такімі цікавымі выйшлі героі гэтай кніжкі, што адчуваеш вострую неабходнасць "жыўцом" пазнаёміцца з гэтымі простымі, у чымсьці наіўнымі і смешнымі, а ў чымсьці хітраватымі і мудрымі Каласкамі і Калінкамі. Таму, калі абвясцілі, што ладзіцца Другое рэспубліканскае свята гумару ў Аўцюках, мы з "Баламутамі" вырашылі абавязкова на яго трапіць.

"Баламуты" — гэта фальклорна-гульнёвы гурт студэнтаў Беларускага універсітэта культуры. У яго складзе — хлопцы і дзяўчаты, якія іграюць на народных інструментах, любяць спяваць і танцаваць, але найбольш любяць жартаваць і весяліцца. Таму канцэртна-забаўляльныя праграмы гурта складзены з жартоўных песень і прыпевак, вясёлых скокаў ды капарытных найгрышаў на бытавых рэчах накшталт праса, шархуноў ды чыгункоў. Выступленні музыкаў яскрава "разбаўляе" вядучая Алеся Пухавая, якая з сатырычнымі байкамі і вострым слоўцам "укладвае" ад смеху любую аўдыторыю. Карацей кажучы, дружна вырашылі "Баламуты": свята ў Аўцюках — гэта наш профіль. Так і адбылася наша фальклорная экспедыцыя, якая падаравала нам шчаслівую магчымасць пабачыць і пачуць тых неверагодных аўцюкоўцаў, ды і не толькі іх, і пачаставацца тымі неверагоднымі сюрпрызамі, якія падрыхтаваў фестываль.




Яны, сюрпрызы, пачаліся ўжо па дарозе, калі на гасцінцы мы раптам убачылі такі паказальнік: "Габрава — 1 321 км, Адэса — 799, М.-Аўцюкі — 13". Вядомыя ўсім сталіцы гумару, а побач нашыя Аўцюкі! Вось тут мы і ўцямілі, куды падаліся: у сталіцу! Гэта ж вам не Мінск які-небудзь, а сапраўдная сталіца, бо ўсім вядома, што гумар — гэта самае галоўнае, на чым мы сёння трымаемся... Сфатаграфаваўшыся ля красамоўнага паказальніка, рушылі далей. І на працягу 13 кіламетраў кумекалі, што

(Заканчэнне на 6-й стар.).

### 58 ГАДОЎ НАЗАД ПАЧАЛАСЯ ДРУГАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА

## ЯК ГЭТА БЫЛО?

Падзеі апошняга жнівеньскага тыдня, які аддзяляў Еўропу ад шматгадовай вайны, уяўляюць сабой лагічнае развіццё падзей усяго лета. Яны як бы падводзілі сумны вынік складанай палітычнай гульні, у якой у канчатковым выніку ў выйгрышы аказаўся агрэсар. На жаль, з нашай дапамогай.

Свет быў ашаломлены: англійскі генштаб лічыў, што Польшча пратрымаецца не менш як паўгода! Германскія войскі — дзве групы армій — хутка пераадолелі памежную паласу і да 8 верасня выйшлі да Варшавы. Асноўныя сілы польскай арміі былі разбіты, яе гераічнае супраціўленне не змагло прыпыніць танкавыя дывізіі вермахта. Войскі фон Бока перайшлі Віслу; часці, што дзейнічалі з Усходняй Прусіі, выйшлі 7 верасня да Нарэва, адрэзаўшы шлях палякам да адступлення. Да 15-га трагічны зыход баёў быў прадвырашаны: немцы ўзялі Люблін і падышлі да Брэста...

У час баявых дзеянняў на тэрыторыі Польшчы была ўстаноўлена дэмаркацыйная лінія раздзялення войскаў. Уступленне савецкіх войскаў ва ўсходнія ваяводствы Польшчы было прадвызначана сакрэтным пратаколам да савецка-германскага пакта аб ненападзенні ад 23 жніўня 1939 года. Германскі бок быў, натуральна, зацікаўлены ў сумесных дзеяннях з войскамі Чырвонай Арміі з самага пачатку вайны супраць Польшчы. Характэрны ў сувязі з гэтым наступны выпадак.

У канцы жніўня 1939 года ў заходняй прэсе (магчыма, гэта было інспіравана з Берліна) з'явіліся весткі, што ў сувязі з германа-польскім канфліктам, які абвастрыўся, савецкія войскі адыходзяць ад граніцы з Польшчай. Такое паведамленне выклікала ў Берліне заклапочанасць, і 27 жніўня Шуленбургу была тэрмінова адпраўлена тэлеграма наступнага зместу:

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВІЗІТЫ

### ГЕРБЕРТ ШНОАР — САПРАЎДНЫ СЯБРА БЕЛАРУСІ



Кіраўнік нашай дзяржавы назваў пана Шноара сапраўдным сябрам беларускага народа і запэўніў госця, што заўсёды рад сустрэчы з ім.

Карыстаючыся выпадкам, Прэзідэнт выказаў кіраўніцтву зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ўдзячнасць за дапамогу нашай краіне, асабліва ў справе стварэння свабоднай эканамічнай зоны ў Брэсцкай вобласці. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што цяпер Беларусі вельмі важна мець добрыя адносіны з уплывовымі заходнімі палітыкамі і тым больш з прадстаўнікамі Германіі.

Герберт Шноар таксама запэўніў Аляксандра Лукашэнку, што кіраўніцтва зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія надае вялікае значэнне развіццю кантактаў з Беларуссю. Паводле яго слоў, існаванне розных поглядаў на некаторыя палітычныя аспекты таго, што адбываецца сёння ў дзвюх дзяржавах, не можа паўплываць на супрацоўніцтва паміж краінамі. Асноўная мэта візіту на Беларусь пана Шноара і прадстаўніка дзяржканцылярыі зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Уда Влокі — перадача вёскам Апечкі Мінскай і Моладава Брэсцкай абласцей, якія найбольш пацярпелі ў выніку ўрагану, грашовай дапамогі ў памеры 100 тысяч нямецкіх марак. Сродкі выдзелены ўрадам гэтай федэральнай зямлі. Гаворачы аб сваёй высакароднай місіі, Герберт Шноар адзначыў, што добра ведае, у якой сітуацыі аказваецца народ краіны, дзе праводзяцца рэформы.

Госці таксама прымуць удзел ва ўрачыстым адкрыцці пасёлка Дружны ў Мядзельскім раёне, пабудаванага для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны пры фінансавым садзейнічанні ФРГ.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Г. ШНОАРА з А. ЛУКАШЭНКАМ.

КАНТАКТЫ

### «БЕЛШЫНА» АДКРЫВАЕ АМЕРЫКУ

Доследную партыю шын новай канструкцыі для сельскагаспадарчай тэхнікі адгрузілі для ЗША з беларускага шыннага камбіната "Белшына". Яны прызначаны для задніх колаў трактароў тыпу "Беларусь".

Закупіла беларускія шыны адна з вядучых амерыканскіх фірм, што займаецца пастаўкай такой прадукцыі. У пачатку дзевяностых гадоў сельскагаспадарчыя машыны ўжо экспартаваліся з Беларусі за акіян.

Калі новая доследная партыя (а гэта 104 шыны) будзе ўхвалена, то для камбіната адкрываецца вялікі рынак на амерыканскім кантыненце. Цяпер на гэтым прадпрыемстве выпускаецца некалькі дзесяткаў найменняў шын для легкавых і грузавых аўтамашын, для сельскагаспадарчай тэхнікі. Сваю прадукцыю бабруйчане экспартуюць у 16 краін далёкага замежжа, у тым ліку ў такія, як Англія, Германія, Галандыя, Фінляндыя, Швецыя.

УРАДЖАЙ-97



Драгічынскі камбікормавы завод (на здымку) — самы буйны хлебапрыёмны пункт у Брэсцкай вобласці. Разам са сваімі філіяламі ён гатовы прыняць у засекі каля 120 тысяч тон збожжа.

З першых дзён уборачнай пары сюды бясконцым патокам ідуць машыны з хлебам новага ўраджаю. Тут бяруцца пробы на аналіз, вызначаецца якасць убранага збожжа, яго ж трэба не толькі прыняць, але і захаваць. Разгрузка праходзіць без затрымак, прастої зведзены да мінімуму.

ЭКАНАМІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

### САЦЫЯЛЬНЫ ВЫБУХ НАМ НЕ ПАГРАЖАЕ

Згодна з данымі апошняга апытання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў пры садзейнічанні фонду "Еўразія", 51 працэнт рэспандэнтаў лічаць, што эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршылася.

На думку прыкладна кожнага трэцяга, эканоміка знаходзіцца практычна на ранейшым узроўні, а 18 працэнтаў думаюць, што яна змянілася да лепшага. Да малазабяспечаных адносяць сябе 60 працэнтаў нашых суайчыннікаў. Пры гэтым больш як палова рэспандэнтаў адзначаюць, што іх матэрыяльнае становішча за апошні год пагоршылася. У той жа час 36 працэнтаў апытаных лічаць свой узровень жыцця сярэднім, і прыкладна столькі ж не адзначылі яго пагаршэння за апошні год.

У сувязі з гэтым сацыёлагі зрабілі вывад: даволі істотная частка насельніцтва краіны змагла ў той або іншай ступені прыстасавацца да цяперашняй эканамічнай сітуацыі. Таму, на думку спецыялістаў, заявы асобных палітыкаў аб немінучым сацыяльным выбуху ў выніку праводзімай эканамічнай палітыкі з'яўляюцца беспадстаўнымі.

ВАЧЫМА ААН

### НАШ ІНДЭКС

Індэкс развіцця чалавечага патэнцыялу, які з'яўляецца адным з важнейшых паказчыкаў рэальнага стану спраў у сацыяльнай і эканамічнай сферах дзяржавы, за мінулы год узрос у Беларусі на 1,2 працэнта.

Пры гэтым індэкс даходу на душу насельніцтва павялічыўся ў рэспубліцы на 5,1 працэнта, а ўзровень адукацыі — на 0,8 працэнта. Такія даныя ўтрымліваюцца ў штогадовай Нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці, падрыхтаванай і нядаўна выдадзенай спецыялістамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

НАША ГІСТОРЫЯ



Праз чатырыста год на гарадскую ратушу ў Віцебску вярнуўся герб (на здымку), дадзены гораду згодна з прывілеем на магдэбургскае права яшчэ ў 1597 годзе: "В блакитном полю образ Спаса Збавителя нашого и прытом зараз нижей меч голый червоны, што ся разуметь кровавый". Выкананы герб у бронзе віцебскім скульптарам Валерыем Магучым.

СЛУЖБА ЗАНЯТАСЦІ

### БЕСПРАЦОЎЕ

Рэспубліканская служба занятасці для маладых людзей ствараецца Беларускім патрыятычным саюзам моладзі. Сярод яе асноўных задач — арганізацыя ўмоў працы для моладзі ў вольны ад вучобы час, а таксама стварэнне дадатковых рабочых месцаў для юнакоў і дзяўчат рэспублікі.

Плануецца, што ў склад рэспубліканскай службы занятасці ўвойдуць рэспубліканскі, абласныя, раённыя і гарадскія цэнтры занятасці моладзі, працоўныя штабы ВНУ, розныя інфармацыйныя цэнтры, а таксама цэнтры прафарыентацыі і прафадукацыі.

БЕЛАРУСКІ ГУМАНІТАРНЫ ЛІЦЭЙ

### ЧАСОВА ЎДАЛОСЯ АДСТАЯЦЬ БУДЫНАК

Беларускі гуманітарны ліцэй — адзіная ў рэспубліцы навучальная ўстанова, дзе ўсе прадметы выкладаюцца на беларускай мове, — дабіўся права ў 1997/98 навучальным годзе знаходзіцца ў сваім будынку па вуліцы Кірава, 21.

Як стала вядома, дырэктар ліцэя Уладзімір Колас атрымаў ліст за подпісам намесніка міністра адукацыі Аляксандра Купцова, у якім гаворыцца наступнае: "У мэтах арганізацыі больш якаснага зместу і тэхнічнага абслугоўвання будынка па вуліцы Кірава, 21, у адпаведнасці з загадам Міністэрства адукацыі ад 15.07.97 № 391 яно пераходзіць у аператыўнае кіраванне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта РБ. Ліцэй Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра і ў 1997/98 навучальным годзе будзе ажыццяўляць сваю дзейнасць па ранейшаму адрасу".

Цяпер у БГЛ актыўна рыхтуюцца да пачатку новага навучальнага года.

ДА НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА



Разам з дзецьмі старанна рыхтаваўся да новага школьнага сезона і гандлёвы цэнтр "Кірмаш", што ў мікраёне Паўднёвы Захад беларускай сталіцы. Спецыялісты цэнтра правялі вялікую работу, каб вучні пайшлі ў школу поўнасцю экіпіраванымі, цэны на школьную прадукцыю тут адносна невысокія. У гэтым годзе швейныя прадпрыемствы рэспублікі распрацавалі многа мадэлей школьнага адзення. "Кірмаш" выставіў на продаж вырабы Мінскага аб'яднання "Прагрэс", баранавіцкай, брэсцкай, навагрудскай і іншых фабрык.

Для зручнасці пакупнікоў секцыя школьных тавараў праводзіць гандаль на вуліцы.

НА ЗДЫМКУ: адзенне прымервае будучая першакласніца.



Сюрпрыз для дзяцей-сірот і інвалідаў Віцебскай школы-інтэрната рыхтуюць будаўнікі італьянскага дабрачыннага фонду "Дапаможам ім жыць". Да новага навучальнага года яны збіраюцца здаць пад ключ новы харчовы блок — кухню і сталовую, дзе будуць харчавацца дзеці.

Будаўнічыя матэрыялы і абсталяванне дастаўлены з Італіі, фонд выдзеліў на рэканструкцыю 100 тысяч долараў.

НА ЗДЫМКУ: плітачнік, ён жа тынкоўшчык Карла МАЦАЛІНІ.

АДПАЧЫНАК

### ЛЕТНІК «ЯДНАННЕ»

Беларускі дзіцячы фонд, выдавецкі цэнтр беларусаў свету "Бацькаўшчына" маюць багаты вопыт паспяховай арганізацыі аздараўленчых акцый. Фінансавую падтрымку аказалі Федэрацыя прафсаюзаў беларуская, Хрысціянскі дзіцячы фонд, прадпрыемствы "МТЗ Медсервіс", прадстаўніцтва кампаніі "Натур Прадукт" у Мінску. А дапамагаюць ажыццяўляць выдатныя планы і задумы самі дзеці.

Сто сорак школьнікаў прадставілі Расію, Літву, Латвію.

У дэлегацыі нашай рэспублікі — юныя мінчане, гамяльчане з гуманітарнай гімназіі, дзеці з Навагрудка, раёнаў, што пацярпелі ад чарнобыльскай трагедыі.

Ці суджана стаць міжнароднаму лагеру на Лагойшчыне мерапрыемствам міжнароднага значэння, традыцыйным, пакажа час. Але галоўнае: сумесны адпачынак пасябруе дзяцей, дапаможа развіццю іх талентаў.

СПАДЧЫНА ВАЙНЫ



Тысячы выбуховых прадметаў: снарадаў, бомбаў, гранат, што не разарваліся і засталіся ў "спадчыну" з часоў Вялікай Айчыннай вайны, знаходзяць, абясшкоджваюць і знішчаюць служачыя спецыялізаванага пошукавага батальёна пры Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь. Апрача выбухова-небяспечных "цацак" салдаты і афіцэры батальёна вядуць пошук астанкаў салдат, якія загінулі ў час вайны, але так і засталіся непахаванымі. У сваіх пошукавых работах яны выкарыстоўваюць архіўныя дакументы і карты баявых дзеянняў часоў Вялікай Айчыннай вайны.

НА ЗДЫМКУ: старшы сапёр Алег АЎСІЕВІЧ (злева) прымае знойдзены снарад у камандзіра аддзялення сяржанта Аляксандра ФІЛІПЕНКІ.

ДАМАШНІ МУЗЕЙ






**Уласны музей адкрыў у Крычаве нядаўні школьнік Саша Радзько. Прыстасаваў для гэтага невялікае памяшканне, дзе размясціў каля тысячы экспанатаў. Сярод іх — знаходкі Сашы, матэрыялы з архіваў яго сваякоў і суседзяў, што расказваюць аб гісторыі горада і раёна XVII—XX стагоддзяў.**

**Здавалася б, у Крычаве, дзе многа гадоў існуе даволі багаты краязнаўчы музей, другі такі і не патрэбны. А вось Саша лічыць інакш. Працуе вартавым і ўвесь вольны час вышуквае дакументы і матэрыялы даўно мінулых дзён, цікавіцца дзейнасцю сённяшніх прадпрыемстваў, збірае расказы ветэранаў аб мінулай вайне. Магчыма, яны ўзбагацяць уяўленне людзей пра старажытны Крычаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: Саша РАДЗЬКО і яго музей; экспанат музея.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

*ЧАЛАВЕК І ЛЁС*

# КАПРАЛ З АРМІІ АНДЭРСА

Гэтага пажылога сівога чалавека я прыкмеціў у Дзень Перамогі ў гарадскім парку культуры нашага горада.

Ён сціпла стаяў каля Вечнага агню і, калі маладыя салдаты адсалютавалі са зброі памяці воінаў, загінуўшых у гады мінулай вайны, стары паклаў на магілу невядомага салдата кветкі і ціха адышоў убок.

Прыкмеціў вось па якой прычыне: на яго грудзях разам з ордэнам Вялікай Айчыннай вайны былі зусім невядомыя мне ўзнагароды, якіх я ніколі не бачыў. На сонцы паблісквалі зграбныя крыжыкі на аксамітных стужках.

Ветэран заўважыў маю цікаўнасць і ўсміхнуўся:

— Не адгадаеце, якіх краін ордэны і медалі... У Беларусі я толькі адзін нашу такія ўзнагароды... Мелі іх яшчэ два жаўнеры, але ўжо памерлі...

Мы разгаварыліся. І я даведаўся пра здзіўляючыя факты біяграфіі гэтага незвычайнага чалавека, якія не могуць змясціцца не тое, што ў гэты артыкул, але і не ўвабраліся б у цэлы раман...

...Нарадзіўся Іосіф Жамойдзін на Валожыншчыне ў вёсцы Узбалаць-3 у вялікай сялянскай сям'і: пяць сыноў і тры дачкі было ў яго бацькі і маці. Ішлі гады, Юзік вырас, увабраўся ў сілу, займаўся у роднай вёсцы гаспадаркаю, касіў, араў, збіраў збожжа. І неўзабаве ажаніўся, завёў сваю сям'ю. Нарадзілася першае дзіцятка — дачушка Верачка. Не паспеў ён пажыць сямейным жыццём: прыйшла позва служыць у Польскае войска. Быў тады дачушцы месяц. Убачыла ж першы раз яна свайго бацьку толькі праз дзесяць гадоў...

Пачалася вайсковая служба. Іосіф перад прызывам паспеў скончыць шэсць класаў польскай вясковай школы, і яго адразу накіравалі на шасцімесячныя курсы ветфельчараў, у школу малодшых камандзіраў. Скончыў, і ў чыне капрала пачаў служыць у легіёне артылерыі. Да дэмабілізацыі заставалася зусім нядоўга, калі Германія аб'явіла вайну Польшчы. Пачалася другая сусветная вайна. Першы бой давялося прыняць пад Пултускам, пазней баі загрымелі пад Варшаваю.

Потым прыйшла Чырвоная Армія, і для Жамойдзіна пачалося ўжо лагернае жыццё. Як ваеннапалонны, ён гарбаціўся на вугальных шахтах Украіны, валіў лес у Сібіры, будаваў чыгунку на Варкуту. Можа і аддаў бы там Богу душу, калі б не яго спецыяльнасць, набытая ў польскім войску. Неўзабаве яго прызначылі конюхам, і Іосіф, каб не памерці з голаду, жаваў разам з коньмі авёс. Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Савецкія войскі ў першыя месяцы вайны церпяць паражэнні ад гітлераўскай арміі. Савецкаму кіраўніцтву трэба было тэрмінова шукаць саюзнікаў, каб спыніць фашысцкае нашэсце, пашыраць антыгітлераўскую кааліцыю. Эмігранцкі польскі ўрад, які тады знаходзіўся ў Англіі на чале з генералам Сікорскім, заключыў са сталінскім урадам дамову, па якой польскія ваеннапалонныя павінны быць вызвалены з савецкіх турмаў і лагераў і адпраўлены на фронт для барацьбы з фашысцкімі войскамі. Пачала ў жніўні 1941 года ў горадзе Вязнікі фарміравацца польская армія пад камандаваннем генерала Андэрса. Быў вызвалены з лагера і трапіў у гэтую армію і беларускі хлопец Іосіф Жамойдзін.

Ташкент. Армія фарміруецца, разгортваецца. Пачынаецца баявая вучоба. Тысячы былых лагернікаў, польскіх салдат... Не хапае афіцэраў, якія, як потым стала вядома, былі расстраляны ў Катынскім лесе. І раптам загад — армію эвакуіраваць у Персію. Іран, Ірак, Ізраіль, Егіпет...

Люты 1944 года. Італія. Тры месяцы каля Неапаля. Баявая вучоба, паветраныя трывогі... Армію перакідваюць пад Монтэ-Касіна. Гэтым невялічкім італьянскім горадам, узмоцненым непрыступнымі каменнымі сценамі тутэйшага манастыра, ніяк не маглі штурмам авалодаць саюзнікі. А ён стаяў на стратэгічным напрамку на Рым. І толькі пасля яго ўзяцця можна было наступаць далей, на поўнач Італіі. Амерыканская армія ўжо штурмавала горадкрэпасць, але панесла цяжкія страты і адкацілася назад. У бой, на штурм пайшлі польскія жаўнеры, сярод якіх было шмат і беларусаў. Амаль тры тыдні цягнуўся штурм Монтэ-Касіна... Атакі ішлі за атакамі... На чатырох могільніках там засталіся сотні магіл, у якіх спяць вечным сном салдаты з арміі

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

# ЯК ГЭТА БЫЛО?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

"У рамках заключанага дагавора аб абменах нотамі ў асцярожнай форме высветліце, ці сапраўды ад польскай граніцы адводзяцца савецкія войскі. Ці нельга іх вярнуць, каб яны максімальна звязалі польскія сілы на ўсходзе?"

Шуленбург у Наркамаце замежных спраў СССР усё добра высветліў і паведаміў, што неўзабаве будзе апублікавана супакойлівая заява аб тым, што савецкія войскі не збіраюцца адыходзіць ад граніцы з Польшчай. Сапраўды, абвяргаючы паведамленне замежных газет аб адводзе ад заходніх савецкіх граніц 200—300 тысяч войскаў, савецкі ўрад 30 жніўня 1939 года афіцыйна заявіў, што, наадварот, "з-за абвастрэння становішча ва ўсходніх раёнах Еўропы і з-за магчымасці ўсялякіх нечаканасцей савецкае камандаванне вырашыла павялічыць колькасны састаў гарнізонаў заходніх граніц СССР".

Цяпер, пасля азнаямлення з нямецкімі дакументамі, становіцца зразумелым сапраўдны сэнс гэтай савецкай заявы. Гітлер мог быць спакойны: Сталін выканае яго прапанову скаваць польскія сілы на ўсходзе, каб аблягчыць дзеянні вермахта на захадзе Польшчы. Але пакуль ён адцягваў уступленне Чырвонай Арміі ў заходнія вобласці Украіны і Беларусі. Сталін хацеў псіхалагічна падрыхтаваць савецкі народ да ўспрыняцця гэтага нечаканага акта ў патрэбным духу.

Аб канкрэтным напаўненні савецка-германскага пакта можна меркаваць па падзеях, якія разгарнуліся ў верасні 1939 года. У чым гэта выявілася? У парушэнні адпаведных артыкулаў савецка-польскага дагавора аб ненападзенні 1932 года, што забаранялі дапамогу і садзейнічанне дзяржаве, якая нападзе — у даным выпадку — на Польшчу. Савецкі Саюз парушыў гэтае палажэнне ўжо 8 верасня 1939 года, калі польскі пасол быў запрошаны да Молатава і яму было афіцыйна заяўлена, што транзіт ваенных матэрыялаў праз тэрыторыю СССР у Польшчу забаронены. Другое парушэнне мела месца ў выніку выкарыстання радыёстанцыі горада Мінска ў якасці радыёмаяка для навядзення германскіх самалётаў, што бамбілі тэрыторыю Польшчы, за што з боку Герынга была перададзена афіцыйная падзяка К. Варашылаву (дарэчы, пасля завяршэння польскай кампаніі Герынг прыслаў Варашылаву ў падарунак самалёт).

Раніцай 17 верасня 1939 года савецкі ўрад паведаміў, што па яго загаду войскі Чырвонай Арміі пачынаюць паход з мэтай вызвалення адзінакроўных братоў-беларусаў і ўкраінцаў. Яно не кваліфікавала гэтыя свае дзеянні як вайну супраць Польшчы.

Цікавы наступны эпізод. У ноч на 17 верасня 1939 года Сталін і Молатаў, інфармуючы германскага пасла Шуленбурга аб маючым адбыцца ўступленні савецкіх войскаў у Польшчу, заявілі, што іх мэта заключаецца ў тым, каб выратаваць заходніх украінцаў і беларусаў. Аднак пытанне пасла, ад каго ж трэба ратаваць, Молатава збянтэжыла. Таму ў сумесным германа-савецкім камюніке, прынятым 18 верасня, але апублікаваным толькі 20 верасня, было сказана, што мэтай германскіх і савецкіх войскаў з'яўляецца "аднавіць у Польшчы парадак і спакой, парушаныя распадам Польскай дзяржавы, і дапамагчы насельніцтву Польшчы перабудаваць умовы свайго дзяржаўнага існавання".

Узнікае заканамернае пытанне: хто ўпаўнаважыў урады Савецкага Саюза і Германіі "аднаўляць парадак" у суверэннай Польшчы і "дапамагаць" яе насельніцтву без яго згоды "перабудоўваць" парадкі, што існавалі ў гэтай краіне?

Стан вайны паміж СССР і Польшчай бакамі не быў аб'яўлены, але сутыкненні савецкіх і польскіх воінскіх часцей назіраліся, нягледзячы на тое, што пасля першых вестак аб пераходзе Чырвонай Арміяй польскай граніцы вярхоўны галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі Польшчы маршал Э. Рыдз-Сміглы аддаў загад: "З Саветамі ў баі не ўступаць, аказваць супраціўленне толькі ў выпадку спроб з іх боку раззбраення нашых часцей, якія ўвайшлі ў сутыкненне з савецкімі войскамі. З немцамі працягваць барацьбу..."

Мы добра ведаем аб абароне Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе, але практычна нічога — аб яе польскай абароне ў 1939-м. 14 верасня 19-ты танкавы корпус Г. Гудэрыяна кідком з Усходняй Прусіі захапіў Брэст. Крэпасць жа на працягу некалькіх сутак абаранялася польскімі войскамі пад камандаваннем генерала К. Плісоўскага. Толькі ў ноч на 17 верасня яе абаронцы ў арганізаваным парадку пакінулі форты і адышлі за Буг.

А да горада набліжаліся савецкія часці пад камандаваннем В. Чуйкова. Камандзір авангарднай танкавай брыгады камбрыг С. Крывашэін заняў Брэст. Ад немцаў запатрабавалі адвесці свае войскі за дэмаркацыйную лінію, бо горад знаходзіўся ў савецкай сферы падзелу Польшчы.

У азнаменаванне перамогі над Польшчай у Гродне, Брэсце, Пінску адбыліся сумесныя савецка-германскія ваенныя парады "братоў па зброі". У Брэсце парад прымалі Г. Гудэрыян і камбрыг С. Крывашэін, у Гродне разам з нямецкім генералам — камбрыг В. Чуйкоў.

У гэты час тысячы польскіх салдат і афіцэраў ішлі ў Літву, Венгрыю, Румынію. Фашысты дабівалі акружаныя войскі і гарнізоны. Але бадзёрыя мітынгі ў Маскве і Ленінградзе, Мінску і Кіеве не канчаліся. А зямля Курапат і Катыні яшчэ прыме тых, хто пакуль жывы...

На тэрыторыі Беларусі самыя напружаныя баі разгарнуліся ў раёне Гродна, дзе скапіліся шматлікія польскія часці, што адступалі з розных напрамкаў. Але нягледзячы на актыўнае супраціўленне, 20 верасня горад быў узяты часцямі Чырвонай Арміі. Акрамя яго, 20 верасня савецкія войскі занялі Баранавічы, а праз 2 дні — Брэст.

Насельніцтва радасна сустракала савецкіх воінаў. Амаль 20 гадоў беларусы і ўкраінцы знаходзіліся ў складзе Польшчы. Польскія ўлады ў гэтыя гады праводзілі гвалтоўнае апалячванне насельніцтва, закрывалі нацыянальныя школы, ператваралі праваслаўныя цэрквы ў касцёлы, адбіралі ў сялян лепшыя землі, перадаючы іх польскім асаднікам.

У кастрычніку 1939 года адбыліся выбары ў Вярхоўны Сход Заходняй Беларусі. Тады ідэю ўз'яднання беларускага народа, няхай нават пад Саветамі, з энтузіязмам падтрымалі самыя розныя палітычныя сілы — ад камуністаў да нацыяналістаў.

Але разам з савецкай уладай прыйшлі і сталінскія парадкі. Пачаліся масавыя рэпрэсіі супраць новых "ворагаў народа" з ліку трапіўшых у палон ваеннаслужачых польскай арміі і мясцовых жыхароў заходніх абласцей. З лістапада 1939 года пацягнуліся на Урал, у Сібір, Казахстан эшалоны з дэпартуемымі жыхарамі.

Крывавы след пакінулі за сабой органы НКУС на тэрыторыі заходніх абласцей рэспублікі. Колькі яшчэ безыменных пахаванняў раскідана ад Брэста да Мінска! А які лёс спасціг афіцэраў польскай арміі?

Згодна з указаннем Берыі, яны былі сканцэнтраваны ў Старабельскім (Варашылаўградская вобласць), Асташкаўскім (востраў Столбны, возера Селігер) і Казельскім (Смаленская вобласць) лагерах.

Чырвонай Арміяй у верасні 1939 года было ўзята ў палон каля 25 тысяч афіцэраў польскай арміі. Савецкае кіраўніцтва не збіралася адпускаць іх з палону, як гэта потым зрабілі немцы. Першапачаткова меркавалася перадаць афіцэраў польскай арміі немцам. Апошнія нават пабудавалі на тэрыторыі генерал-губернатарства некалькі спецыяльных лагераў. Аднак у рэшце рэшт у сталінскім кіраўніцтве перамагло меркаванне, што палонных трэба знішчыць. Цяпер ужо вядома, што санкцыю на знішчэнне афіцэраў польскай арміі дало ў красавіку 1940 года Палітбюро ЦК ВКП(б), а непасрэдна прыгавор быў вынесены Асобай нарадай НКУС СССР.

Сёння выяўлены і месцы іх пакарання, і месцы пахавання: лесапаркавая зона ў Харкаве, Катынь і пасёлак Меднае ў Цвярской вобласці. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што больш за 3 тысячы афіцэраў польскай арміі было расстраляна ў Курапатах. Пра гэта сведчаць дакументы, сабраныя беларускім журналістам Яўгенам Гарэлікам у кнізе "Курапаты. Польскі след", якая выйшла ў свет летам 1996 года ў Варшаве.

Дваццаць шостага верасня савецкія газеты апублікавалі вялікае паведамленне "Германскае камандаванне аб выніках вайны ў Польшчы". На наступны дзень у Маскву прыбыў Рыбентроп. Дваццаць восьмага, калі яшчэ дагаралі ачагі адкрытага супраціўлення фашызму ў Варшаве і на Балтыцы, быў падпісаны савецка-германскі дагавор аб дружбе і граніцы.

І вось усё скончана. У школах Заходняй Беларусі аднаўляюцца заняткі. Наладжваецца работа прадпрыемстваў. Войскі ўладкоўваюцца ў казармах. Жыццё працягваецца — для тых, хто выжыў. Вясёлай частушкай ставіць кропку на тым, што адбылося, Лебедзеў-Кумач:

**Панской Польши нету больше,**
**Хитрой ведьмы нет в живых,**
**Не захватит в лапы Польша**
**Наших братьев трудовых!**

Да пачатку Вялікай Айчыннай заставалася менш двух гадоў...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# ГЭТА НАШ ДЗЕНЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Алег Рудакоў. Ён перш за ўсё напомніў прысутным, з чаго ўсё пачалося. Яшчэ ўвосень 1995 года ім быў надрукаваны невялікі артыкул у рэгіянальнай газеце "Советская молодежь", у якім, крыху расказаўшы пра IV з'езд ТБМ, што адбыўся ў Мінску, прапанаваў іркуцкім беларусам сустрэцца і разам абмеркаваць матэрыялы з'езда. Пакліч быў пачуты. Адгукнуліся: артыстка Музычнага тэатра Людміла Чаканнікава (родам з Салігорска), начальнік цэха аднаго з іркуцкіх заводаў Васіль Кісялёў (з Гомельшчыны), прафесар медінстытута Анатолій Рэут, ваеннаслужачая Надзея Банчук (з Гомельшчыны). І вось 23 лютага 1996 года яны сабраліся ўпершыню разам. Кожны выказаў свае думкі, якія былі амаль аднолькавымі: перш за ўсё адчувалася вялікая туга па бацькаўшчыне, па-другое, усе прысутныя ўжо меркавалі аб тым, каб аб'яднаць землякоў-беларусаў, але не хапала нейкага штуршка. І вось ён з'явіўся. Адразу вырашылі, што трэба стварыць не суполку ТБМ, а самастойнае таварыства, галоўнай мэтай якога будзе адраджэнне і развіццё свядомасці, самапавагі беларусаў Усходняй Сібіры да сваёй культуры, гісторыі, мовы, традыцый, а таксама пашырэнне ведаў сярод іркуцян пра малавядомы, цікавы, гераічны лёс беларускага народа. На гэтай сустрэчы таксама быў распрацаваны рабочы план магчымай дзейнасці таварыства. Утварыўся такім чынам аргкамітэт, які і паставіў сабе на мэце правесці агітацыйную працу сярод сваіх знаёмых і супрацоўнікаў, выяўляючы свядомых беларусаў, і па гатоўнасці сабраць вялікі сход землякоў. Такое стала магчыма праз 3 месяцы. 31 мая 1996 года адбыўся I з'езд беларусаў Іркуцкай вобласці.

Спадар Алег таксама зазначыў, што за год існавання таварыства справў было зроблена шмат. Адзін толькі просты іх пералік заняў бы значны час. Таму ён вырашыў напомніць прысутным галоўныя мерапрыемствы, якія набылі вялікі розгалас. Перш за ўсё ІТБК правяло шэраг народных свят: Купалле, Каляды, Гуканне вясны і інш., дзе былі захаваны ўсе беларускія традыцыі. Цікавасць да гэтых свят была вельмі вялікая, і таму ўсе іркуцкія СМІ далі падрабязныя рэпартажы аб гэтых падзеях.

Пры ІТБК створаны Іркуцкі беларускі маладзёжны клуб, дзе ўжо поўным ходам працуюць некалькі секцый: фальклорная, краязнаўчая і інш. Асабліва мы можам ганарыцца нядаўна ўзнікшым дзіцячым ансамблем "Пралескі", які ўжо шмат дзе выступаў, быў удзельнікам дзіцячага фестывалю "Моя Сибирь", які праходзіў 28 лютага ў Іркуцку.

Заканчваючы сваю прамову, спадар Алег ад імя кіраўніцтва ІТБК выказаў вялікую падзяку найбольш актыўным сябрам таварыства: Аліне Грыбаноўскай, Надзеі і Алене Банчук, Галіне і Святлане Юранковым, Анжэліцы Пацэвіч, Галіне Клімовіч, Надзеі Красновай, Алене Кашлевай, ансамблю "Пралескі". Ім усім былі ўручаны невялікія падарункі.

Затым слова ўзяла кіраўнік этнаграфічнай секцыі Абласнога цэнтра турызму Ірына Пядушкіна. Яна вельмі ўзрушана распавядала пра некалькі сваіх экспедыцый па Усходняй Сібіры, у якіх нечаканая трапляла ў беларускія вёскі. Асабліва цікава было ў вёсцы Броды. Там яна з сябрамі апынулася акурат у дзень Купалля.

Павіншаваць ІТБК з першай гадавінай прыйшоў таксама і старшыня Украінскага культурнага цэнтра Мікалай Сяльвестраў. Ён зазначыў, што вельмі рад бачыць, як беларускае таварыства за такі невялікі перыяд ператварылася ў моцную, трывалую, працаздольную арганізацыю. "Год для культурнага цэнтра ва ўмовах абсалютнага беспрацоўя і без фінансавай падтрымкі з боку сваёй уласнай дзяржавы безумоўна вельмі малы тэрмін. Аднак мы рады, што браты-беларусы ўсё ж такі змаглі самаарганізавацца і, нягледзячы на складанасць абстаноўкі, заняць пачэсны пасад сярод іншых культурных цэнтраў Усходняй Сібіры", — так сказаў спадар Сяльвестраў. Потым ён уручыў падарунак ІТБК — кнігу выдатнага ўкраінскага пісьменніка Т. Шаўчэнкі "Кабзар".

Шмат цёплых слоў і пажаданняў Беларускаму таварыству выказала Галіна Гусева. Яна нарадзілася ў Сібіры, аднак яе маці Вольга Цімашэнка — "чыстая" беларуска і была эвакуіравана з роднага краю ў 1944 годзе. Цяпер Вользе Пятроўне 85 гадоў, і ў яе тут зараз ужо шмат унукаў і праўнукаў. Аднак усе яны памятаюць свае карані і спяваюць беларускія "бабуліны" песні. Дарэчы, старэйшая дачка Вольгі Пятроўны Наталля стварыла сямейны фальклорны гурт "Ковчег", які выконвае мясцовыя сібірскія песні на беларускай, украінскай і рускай мовах.

На гэтым невялікае ўрачыстае пасяджэнне закончылася, і пачаўся святочны канцэрт.

Першы раз паказалі свае ўмельства дзяўчынкі з танцавальнай секцыі Іркуцкага беларускага маладзёжнага клуба. Яны выканалі танец "Лявоніха". Дарослыя з вялікім задавальненнем глядзелі на 12-гадовых дзяўчынак, а некаторыя, як потым прызнаваліся, ледзь самі не пайшлі ў скокі. Вельмі чулліва, прыгожа і па-майстэрску спявалі нашы жанчыны: Аліна Грыбаноўская, Алена Кашлева і Алена Банчук. Яны выканалі некалькі настальгічных цудоўных песень: "Каб любіць Беларусь нашу мілую", "Бярозка", "Ручнікі" пад акампанемент баяністкі Галіны Клімовіч. Дарэчы, зараз гэтыя жанчыны ўжо ўсур'ёз хочуць стварыць дарослы фальклорны гурт. Няма сумневу, што з такімі талентамі гэта будзе зроблена. Гучалі на канцэрце і вершы беларускіх паэтаў. Іх пранікнёна чыталі Галіна Юранкова, Алена Банчук, Алена Кашлева. Выказала жаданне спець народную песню "Пра вутак" Вольга Цімашэнка. Яны разам з унучкай у два галасы так цудоўна спявалі, што амаль ва ўсіх прысутных навярнуліся слёзы. Па-першае, гэта 85-гадовая бабуля сапраўды тыповая беларуска (калі вы ведаеце народную артыстку Беларусі Станюту, дык тая вельмі падобная да яе). Яна многім напомніла іх маці ці бабулю. Па-другое, песня гучная, меладычная і выканана ў стылі сапраўднага вясковага фальклору. Такое немагчыма перадаць словамі: трэба чуць. На гэтым канцэрт ледзь не скончыўся, бо "артысты" выцíралі насоўкамі вочы і не маглі сказаць ані слова. Становішча выратаваў спадар Алег Рудакоў. Ён даволі артыстычна прачытаў знакамітую байку Кандрата Крапівы "Дзед і баба", чым развесяліў усю аўдыторыю. Бясспрэчна, выдатна выступіў ужо вядомы на ўсю Усходнюю Сібір дзіцячы ансамбль "Пралескі". 14—15-гадовыя дзяўчаты ў прыгожых беларускіх строях выканалі цудоўны танец "Лянок". Яго дапамагла паставіць лепшы харэограф Палаца творчасці Галіна Ахметгаліева. Уся зала доўгі час пляскала ў далоні. Нельга абмінуць словам і выступленне дзвюх беларусачак Юлі Грыбеншчыковай і Вольгі Храмавай. Яны прафесійна займаюцца танцамі ў музычнай школе. Аднак для гэтага вечара дзяўчынкі не паспелі падрыхтаваць які-небудзь беларускі танец і таму выканалі іспанскі. Ну а закончыўся гэты цудоўны канцэрт выкананнем знакамітай беларускай песні "Вы шуміце, бярозы". Спявалі ўсе. Узрушаны настрой лунаў сярод прысутных увесь вечар.

Але калі вы лічыце, што тут можна паставіць кропку, то памыляецеся. Нават пасля таго, як усе прысутныя перайшлі ў другую залу на фуршэт, канцэрт, праўда, ужо не запланаваны, прадоўжыўся. Прычым таленты з'яўляліся зусім нечакана. То ў адным канцы заспяваюць народную "Касіў Ясь канюшыну", то ў другім — раманс "Зорка Венера". Але гэта была ўжо зусім неафіцыйная частка нашага свята...

І ўсё ж такі як цудоўна, што існуюць беларусы на свеце са сваёй цікавай культурай, са сваімі прыгожымі песнямі, са сваёй меладычнай мовай. І як прыемна, асабліва ўдалечыні ад Бацькаўшчыны, сабрацца грамадой і... заспяваць.

Вялікі дзякуй усім вам, мае шчырыя свядомыя землякі, за тое, што не згубілі ў чужой старонцы сваю адметнасць, памятаеце "родны кут" і родную матчыну мову.

Свята спадабалася ўсім: і сябрам-беларусам, і запрошаным гасцям. Спадзяёмся, што 31 мая беларусы Іркуцка будуць збірацца штогод, бо гэта наш Дзень!

**("Маланка").**



**НА ЗДЫМКУ: ансамбль "Пралескі" і Алег РУДАКОЎ.**

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ

Дарэчы, сваімі абрысамі возера напамінае сэрца. Калі працягваць гэтую немудрагелістую метафару далей, то тры сасны на востраве можна параўнаць са стрэламі амура.

З даўняга часу гэтыя мясціны падабаюцца людзям. Жыхары навакольных вёсак прыходзяць сюды па грыбы, ягады, лавіць рыбу, паляваць і проста пакупацца ў ізумруднай вадзе Глублі. Асабліва мнагалюдна было на берагах возера ў ноч на Івана Купалу, калі моладзь збіралася ля пратокі і ўшаноўвала Ярылу. Звычайна рыхтаваліся загадзя, секлі дровы для вялікага вогнішча, плялі вянкі, упрыгожвалі харугвамі паляну, майстравалі "кола", якое сімвалізавала сонца. З наступленнем цемнаты запальвалі агонь, каля якога ўсю ноч спявалі, танцавалі, вадзілі карагоды, ладзілі купальскія гульні, што заканчваліся пацалункамі. Моладзь парамі ўздымалася на сопку, крычалі "кахаю!", а з вострава адгукалася рэха. У каго каханне было шчырае і моцнае, у адказ чулася асабліва гучнае рэха. Гэтаму абраду заручаных надавалі вялікае значэнне.

Гулянне доўжылася да золку. З наступленнем гэтага моманту ўсе ішлі на бераг Глублі, і дзяўчаты пускалі на ваду вянкі з запаленымі свечкамі. Цёмнае возера зіхацела агеньчыкамі, наваколле напаўнялася вясёлым шумам, смехам. Найбольш рашучыя і адчайныя хлопцы з вянкамі сваіх каханых пераплывалі возера. Лічылася дакладнай прыкметай шчасця, калі ўдавалася дабрацца да супрацьлеглага берага з вянком, на якім не патухне ні адна свечка. Купанне ў купальскую ноч — абавязковы рытуал, праз які "змываліся" грахі. Наступаў світанак, усе разыходзіліся па хатах, стомленыя ад бяссоннай ночы, але радасныя і шчаслівыя.

* * *

Дарэчы, назву возеру і ўсяму заказніку даў незвычайны зеленавата-блакітны колер вады. Празрыстая чыстая вада дазваляе на глыбіні да 5 метраў разглядаць светлыя карбанатныя адкладанні, якія надаюць вадзе марское адценне і быццам бы выпраменьваюць святло. Няма нічога больш прыемнага, чым паплаваць у Глублі. Звычайна я заплываў далёка. Аднойчы на сярэдзіне возера сустрэў качак. Яны з цікавасцю глядзелі на мяне. Але хутка качка з качанятамі паплыла да граху далей, а качар пачаў ціхенька кракаць, быццам запрашаючы плысці за ім. Аднак я накіраваўся ўслед за выводкам. Устрывожаны качар пачаў ныраць каля мяне, выныраючы то з аднаго, то з другога боку. Чарговы раз качар вынырнуў з рыбкай у дзюбе і хуценька паплыў да свайго сямейства. Адно з качанят прагнынула здабычу, качка кракнула, і ўсе зніклі. А вакол мяне працягвала забаўляцца дробная рыбка, часам тыцкаючыся носам у мае ногі.

З разрыву воблакаў выбліснула сонца, апошнімі промнямі асвяціўшы затуманенае возера. Паўз мяне, як на парадзе, ад берага да берага праплылі яшчэ два качыныя выводкі. Адно сямейства з крыкам і гучным хлопаннем узнялося, апісала некалькі кругоў над возерам і зноў села непадалёк. Усё дыхала дзіўным спакоем. Аднекуль данеслася мыканне кароў і дадало агульнага ўражання згасаючаму летняму дню. Расслаблена пагойдваючыся на вадзе, я аддаваўся сузіранню прыроды, літаральна раствараўся ў ёй. Мяне быццам бы не існавала асобна. Я быў ва ўсім, і ўсё было ўва мне, і гэта рабіла мяне моцным, усёмагутным.

Падзьмуў вецер, узнялася рабізна. Возера яшчэ гусцей акуталася туманам, быццам бы нацягвала на сябе белую пуховую коўдру. Качаняты з піскам перабежкамі накіроўваліся ў чараты спаць. Пажадаўшы ім спакойнай ночы, я хуценька паплыў да берага.

* * *

Ад Блакітных азёраў па лясной сцяжыне, якая так крута ўзлятае на касагор, што аж займае дух, выбіраемся да зарослай водарасцямі ракі Страча. Яна неглыбокая, з празрыстай вадой, і калі ціха пастаяць на беразе, можна ўбачыць сярод зарасніку рэдкіх для беларускіх рэк фарэль і харыуса. Наяўнасць гэтых рыб пацвярджае чысціню вады, якую рака збірае толькі на невялікім участку з 14 лясных азёраў. Па берагах свежыя сляды баброў. Іх тут шмат. У адным месцы наладзілі такі завал, што цяжка прайсці. У іншым, на маленькім ручайку, збудавалі запруду. Затапіўшы гектар лесу, набудавалі сабе хатак.

Перайсці раку можна ўброд, але ёсць і кладачкі з паваленых дрэў. За ракой сцежка выводзіць на лясную дарогу, якая праз хутар ідзе каля возера Балдук. Гэта самае буйное ў заказніку возера. Уражвае яго глыбіня — да 40 метраў. Пры такой глыбіні вада не праграваецца, і купацца тут не зусім прыемна. На беразе абсталяваны стаянкі для турыстаў, але плаваць яны ходзяць на возера Карасік, якое месціцца побач, праз марэнную граду. Гэта ўтульны круглы вадаём з вялікім утрыманнем ёду, пах якога адчуваецца здалёк, а пасля купання на целе застаецца чырванаваты налёт.

Усе азёры з сістэмы Блакітных маюць свой састаў мінеральных рэчываў з розным узроўнем канцэнтрацыі. У Імшарніку, напрыклад, састаў вады такі, што сюды здалёк прыходзілі мыць бялізну. Кожнае возера па-свойму непаўторнае і своеасаблівае. Глубля здзіўляе зеленавата-блакітным колерам і празрыстасцю. Глубелька — прыгажосцю і мудрагелістымі абрысамі. Вільчыня — дзівоснымі карчагамі на беразе.

* * *

Далей маршрут вядзе паўз азёры Вялікія Швакшты, Кузьмічы, Мядзель, Рудакова і вяртае зноў да Нарачы ў раёне вёскі Нікольцы. За 800 метраў ад Нікольцаў устаноўлены помнік партызанам былой Вілейскай вобласці. Ён збудаваны на тым месцы, дзе ў сакавіку 1943 года адбылася жорсткая бітва з фашыстамі. Дваццацічырохметровая стэла, што ўзвышаецца на крутым беразе Нарачы, служыць добрым арыенцірам для турыстаў, якія плывуць па возеры.

У наваколлі Нікольцаў археолагі знайшлі стаянкі чалавека III тысячагоддзя да нашай эры, гарадзішчы VI—IX стагоддзяў. Матэрыялы археалагічных раскопак знаходзяцца ў Мядзельскім музеі народнай славы і ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі.

Але калі з Блакітных азёр вяртацца транспартам, то шлях пралягае праз вёску Нарач. Сучасную назву паселішча атрымала ў 1964 годзе. Былая ўласнасць князёў Свірскіх называлася Кабыльнікі. У гістарычных дакументах Кабыльнікі ўпамінаюцца ў XV—XVII стагоддзях. Відавочна, у той час тут быў буйны гандлёвы шлях.

**Юрый АКУДОВІЧ.**

Працяг.
Пачатак у №№ 28—34.

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 6

Шосты нумар часопіса "Кантакты і дыялогі" быў прымеркаваны да Другога з'езда беларусаў свету, які адбыўся ў канцы ліпеня, і таму багаты на матэрыялы, што асвятляюць пастаці і жыццё беларускага замежжа. Адкрываецца выданне артыкулам Янкі Запрудніка "Беларускія мастакі на чужыне — вяшчальнікі Бацькаўшчыны".

"Хоць першымі ідэолагамі і палітыкамі беларускага нацыянальнага адраджэння былі пісьменнікі, — піша аўтар, — на некаторых этапах умацоўвання беларушчыны, уключна з цяперашнім, на пярэдняй лініі знаходзіліся мастакі". Мастацтва для беларусаў на чужыне служыла эмацыянальным лучнікам са страчанай Радзімай і адначасова было сродкам інфармацыі пра яе ў чужамоўным асяроддзі, дзе часам не хапала ведання мовы, каб расказаць пра краіну, адкуль браў пачатак іх род. Пра краіну продкаў часцей за ўсё інфармавалі універсальнай мовай мастацтва. Варта было расскласці на саматканых дзяружках і ручніках вырабы народных майстроў з гліны, дрэва, саломкі, паказаць традыцыйную вышыўку, павесіць карту Беларусі, апрануць народныя строі, і ўвага карэспандэнтаў і фатографаў была забяспечана. І такім чынам пашыралася ў свеце інфармацыя пра сінявокую Беларусь. Апрача этнічных фестываляў, у замежных краінах, дзе жывуць беларусы, тварылі і творыць беларускія мастакі-прафесіяналы і мастакі-аматары. На жаль, вельмі мала пра іх творчасць ведалі ды і цяпер ведаюць на Бацькаўшчыне. Толькі ў апошнія гады прайшло ў Мінску некалькі выстаў мастакоў — зарубежных беларусаў, ды час ад часу з'яўляюцца асобныя публікацыі пра беларускае выяўленчае мастацтва замежжа. Між тым, заўважае Я. Запруднік, эміграцыйны друк поўны ілюстраваных рэпартажаў пра ўдзел беларусаў у выставах ды фестывалях, хацця ўсебаковага асэнсавання ролі мастацтва і мастакоў у дзейнасці беларускай эміграцыі на Захадзе яшчэ таксама не было.

Згадвае Янка Запруднік і аб традыцыйных штогадовых выставах у Саўт-Рыверы, што складаюцца з экспанатаў беларускіх мастакоў, фатографаў, народных майстроў, а таксама з прынагодных экспанатаў, прысланых з Беларусі. Далей аўтар прыводзіць выказванні некаторых творцаў, удзельнікаў выставы пра ролю мастака і мастацтва ў жыцці эміграцыі.

Пра музычную спадчыну беларускага замежжа расказвае Гай Пікарда ў артыкуле "Музычнае жыццё беларускай эміграцыі (1944—1994)". Развіццё музыкі на эміграцыі ўзнаўляла беларускую культуру этнічна, было свядомай спробай захаваць і прадоўжыць нацыянальную музычную традыцыю. Паваенная беларуская эміграцыя — гэта ў асноўным інтэлігенцыя, якая не прымала існуючага рэжыму, таму сярод яе так многа было людзей творчых. Замест Сібіры абралі шлях на Захад М. Куліковіч, М. Равенскі, Э. Зубковіч, а таксама меншыя зоркі — К. Кіслы, В. Селях-Качанскі, А. Евец, К. Барысавец, П. Звонны, мноства таленавітых аматараў.

Пачынаючы з 1944 года, ствараe і кіруе хорам спачатку ў Нямеччыне, а потым у Бельгіі М. Равенскі. Пасля смерці М. Равенскага яго спадкаемцам становіцца К. Кіслы.

А тым часам актыўную дзейнасць разгарнулі ў Канадзе і ЗША харысты, аркестранты і танцоры. Натхніцелем іх быў М. Куліковіч, потым ранейшыя ўдзельнікі беларускага хору ў Лювене ў Бельгіі. Некалькі разоў за гэты час выдаваліся і музычныя беларускія творы — фалькнорныя, апрацоўкі і арыгінальныя. Аднак "значныя зборы музычных твораў, спеўнікі, якія засталіся ў рукапісах, разам са шматлікімі нявыдадзенымі творамі Куліковіча, Равенскага, Карповіча, Барысаўца, Селях-Качанскага, Верасава, Мазуры, Звоннага чакаюць свайго аналізу і, магчыма, выдання ў будучыні. Толькі тады мы зможам ацаніць уклад беларускай эміграцыі ў захаванне і развіццё нацыянальнай музычнай спадчыны", — піша Гай Пікарда.

На старонках часопіса змешчана хроніка беларусазнаўчага жыцця ў нас у рэспубліцы, а таксама старонкі з будучага энцыклапедычнага зборніка, прысвечаныя Раісе Жук-Грышкевіч і Зоры Кіпель. Ёсць дзве рэцэнзіі — на кнігу М. Ількевіча "Душа двоілась" і Я. Чыквіна "Далёкія і блізкія".

Д. Ч.

# НА ЧУЖЫНЕ, АЛЕ Ў СУВЯЗІ З РАДЗІМАЙ

Калі знаёмішся з жыццём і творчым шляхам выдатнага спевака Пятра Конюха, міжволі прыходзіць думка, што сапраўдны талент можа паспяхова развівацца толькі ва ўмовах спрыяльных.

Жыццё Пятра Васільевіча Конюха цесна звязана з нашай Карэліччынай. Ён нарадзіўся 8 сакавіка 1910 года ў мястэчку Турэц Навагрудскага павета (цяпер гэта Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці) у шматдзетнай сялянскай сям'і. У 1928 годзе, спрабуючы набыць найбольш неабходныя для сялянскага хлопца веды, паступіў вучыцца ў Кашалёўскую сельскагаспадарчую школу, адкрытую польскімі ўладамі, аднак у 1930 годзе як "нядобранадзейны" ён вымушаны быў пакінуць яе, так і не закончыўшы вучобу. Да прызыву ў армію жыў у роднай вёсцы, дапамагаў бацьку па гаспадарцы. Дарэчы, спатрэбіліся і веды, якія ён паспеў набыць у Кашалёве: то карову выратуе суседу, то дасць знаёмаму карысную параду па гаспадарцы. А як пойдзе ў поле з састрой снапы вязаць ды заспявае, усе, хто побач, работу пакідаюць, стаяць і слухаюць яго голас. Надзелены ад прыроды незвычайным талентам, Пятро Конюх з канцэртамі арганізаванага ў Турцы хору пабываў у Навагрудку, Стоўбцах і іншых мясцінах. Ён не толькі спяваў, але і ўмеў іграць на кларнеце, мандаліне і гітары. На адным з фотаздымкаў, які захоўваецца ў Карэліцкім краязнаўчым музеі "Зямля і людзі", Пятро Конюх — сярод удзельнікаў аркестра струнных інструментаў у Турцы, на другім — ён разам з самадзейнымі артыстамі каля руін Навагрудскага замка. Прымаў Пятро ўдзел і ў беларускіх спектаклях, якія моладзь наладжвала ў час святаў. "Звярнула ўвагу" на яго артыстычную дзейнасць і паліцыя — за спяванне беларускіх песень некалькі разоў ён трапляў у пастарунак. У Турцы старыя людзі і сёння памятаюць цудоўны голас Пятра Конюха, хоць шмат гадоў прайшло з таго часу, як яны бачылі яго апошні раз.

У 1932 годзе Пятро Конюх быў прызваны ў польскую армію, а пасля заканчэння службы, у 1934 годзе, зноў вярнуўся ў родную вёску. Гады два ён займаўся гаспадарчымі справамі, а потым паступіў у Вільню на курсы, пасля заканчэння якіх у 1938 годзе пачаў працаваць у Баранавічах эксп'ертам па закупцы льну. Потым перабраўся ў Стоўбцы і там уладкаваўся на працу. Па ўспамінах сваякоў, перад самай вайной наш зямляк быў накіраваны на курсы ў Ржэў, дзе яго і застала вайна. У 1942 годзе 32-гадовы Пятро Конюх быў прызваны на ваенную службу і трапіў у польскую армію Андэрса, якую ў хуткім часе эвакуіравалі ў Іран і Ірак, затым разам з гэтымі вайсковымі злучэннямі пабываў у Егіпце, Палесціне і Італіі. За ўдзел у баявой аперацыі пры Монтэ-Касіна быў узнагароджаны "Памятным Крыжам", потым атрымаў яшчэ адну ўзнагароду — "Зорку Італіі".

4 чэрвеня 1944 года войскі саюзнікаў увайшлі ў Рым. Адсюль пачынаецца новая старонка ў жыцці Пятра Конюха. У 1951 годзе ён скончыў у Рыме Акадэмію мастацтваў з дыпломам спевака, але працягваў вучобу далей, каб праз некалькі год атрымаць яшчэ адзін дыплом — музычна крытыка. Адначасова займаўся канцэртнай дзейнасцю, выступаў у лепшых залах Рыма і за межамі Італіі. У 1954 годзе адправіўся ў турнэ па Еўропе. Трэба падкрэсліць, што ў час канцэртаў наш зямляк заўсёды ўключаў у свой рэпертуар беларускія песні.

Восенню 1956 года спявак эмігруе ў ЗША. 2 снежня таго ж года ён даў канцэрт у канцэртным цэнтры Карнэгі Хол. Акампанаваў яму ў час гэтага канцэрта адзін з лепшых піяністаў І. Васілеўскі, які некалі суправаджаў вялікага Ф. Шаляпіна. У сваю праграму Пятро Конюх уключыў зноў беларускія народныя песні. Публіка была ад іх у захапленні. Нашага земляка сталі называць "беларускім Шаляпіным". Затым Пятро Конюх даў яшчэ шэраг канцэртаў у ЗША і Канадзе. І ўсюды ён памятаў пра родную карэліцкую зямлю, сваякоў. Працытуем некалькі мясцін з лістоў (яны цяпер захоўваюцца ў нашым музеі і ў сваякоў).

"Можа, я вярнуся ў Польшчу або на радзіму" (Гамбург. 1.12.1974).

"Турнэ мы закончылі 13 сакавіка 1977 года, а 14 сакавіка я ўжо быў у Нью-Йорку. За 6 месяцаў далі 176 канцэртаў" (Нью-Йорк, 5.4.1977).

"20.IX.77 беларускія "Песняры" мелі першы канцэрт у Нью-Йорку; я быў на прэм'еры і нават іх увесь канцэрт запісаў сваім маленькім кішэнным апаратам. На канцэрце было шмат беларусаў, мы іх ("Песняроў". — С. К.) вельмі добра прымалі" (Нью-Йорк, 18.10.1977).

"Сёння турнэ наша канчаецца. Вылятаем у Нью-Йорк з Парыжа 11.03.79 г. Я адчуваю сябе добра. Скалясіў усю Еўропу, вельмі шмат маіх сяброў я не пабачыў, адышлі назаўсёды..." (Парыж. 10.3.1979).

"За апошнія 23 гады перасякаў 40 разоў акіян і 3 разы абляцеў вакол зямлі, так што нічога для мяне новага не прадбачыцца ды і неяк зараз люблю ўспамінаць мінулае (старэю)" (Нью-Йорк. 24.3.1980).

Акрамя канцэртнай дзейнасці, Пятро Конюх даваў урокі спеваў, меў студыі ў Гамбургу і Нью-Йорку. Час ад часу спявак выступаў з сольнымі канцэртамі. У нашым музеі "Зямля і людзі" захоўвецца праграма яго канцэрта, які ён даў 24 ліпеня 1965 года ў беларускім цэнтры адпачынку "Бэлер-Менск". Сярод іншых песень у праграме — беларускія народныя "Дзеўка лён рвала", "Ой, хадзіў-гуляў малойчык", "Лучына", "Палын".

На жаль, запісы песень П. Конюха у нас не захаваліся: размагніціліся стужкі, на якіх былі запісаны ўвесь яго рэпертуар. Але засталіся пласцінкі з запісамі песень Хору данскіх казакаў, на якіх гучыць голас нашага земляка. У музеі "Зямля і людзі" захоўваецца гукавое пісьмо з запісам голасу П. Конюха. Яно адрасавана роднымі спевака і заканчваецца песнямі ў яго выкананні.

У 1975 годзе Пятро Конюх наведаў радзіму, пабываў у Маскве, Ленінградзе, пабачыў Крым. У Мінску праз шмат гадоў сустрэўся са сваякамі. Тады і ўзнікнела ў яго думка, якая даўно не давала спакою, — вярнуцца на Радзіму. Навает дом набыў у Мінску. Але так і застаўся на чужыне.

Апошнія гады жыцця Пятро Конюх жыў у Канадзе, куды пераехаў у 1987 годзе. Спяваў у царкоўным хоры, прымаў удзел у музычных фестывалях. Памёр спявак 14 ліпеня 1995 года ў мястэчку Св. Кацярыны ў Канадзе на 85-м годзе жыцця. Пахаваны ў ЗША на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку ў штаце Нью-Джэрсі, дзе яшчэ пры жыцці паспеў набыць зямлю.

А яго постаць, яго цудоўны голас застаюцца ў памяці землякоў.

**Святлана КОШУР.**
*("Кантакты и дыялогі").*

## ПАМЯЦІ ЛЯВОНА ЛУЦКЕВІЧА

Сёлета 28 ліпеня ў адным са шпіталяў Вільні памёр Лявон Антонавіч Луцкевіч.

Яго можна было заўсёды ўбачыць на розных беларускіх імпрэзах. Да яго звярталіся за парадай, дапамогай, і было прыемна проста наведаць дзядзьку Лявона, паслухаць добрую беларускую гаворку. Нават страшна было падумаць, што можа не быць сярод нас гэтага незвычайнага чалавека. На жаль, гэта сталася, жыццё чалавека не вечнае. А, здаецца, зусім нядаўна, у сакавіку, віншавалі дзядзьку Лявона з 75-годдзем.

Нарадзіўся Л. Луцкевіч у Вільні 17 сакавіка 1922 года ў сям'і Антона Луцкевіча — выдатнага культурнага, грамадскага і палітычнага дзеяча. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, пасля — у Віленскім тэхнічным ліцэі. Працаваў настаўнікам у Радашковічах, дырэктарам мастацкай школы ў Баранавічах. Пасля другой сусветнай вайны бальшавікамі быў рэпрэсаваны, адбываў зняволенне на поўначы далёкай Якуціі. Хрушчоўская " адліга", вярнуўся ў родны горад Вільню, здароўе падарвана. Па магчымасці займаўся зборам матэрыялаў па гісторыі беларускага культурнага і грамадскага жыцця ў міжваенны час у Вільні і Заходняй Беларусі. У канцы 80-х гадоў менавіта дзядзька Лявон быў ініцыятарам стварэння беларускіх суполак у Літве, дапамагаў адраджэнню беларускай школы ў Вільні, узначальваў ТБШ, вёў перадачы па-беларуску на літоўскім радыё, прымаў актыўны ўдзел у дзейнасці ТБК і іншых суполак. Смерць дзядзькі Лявона — вялікая страта для беларусаў Віленшчыны. Але ён заўсёды застанецца ў нашай памяці, у нашых сэрцах.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільнюс.

## КАПРАЛ З АРМІІ АНДЭРСА



(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Андэрса. У 1989 і 1995 гадах Іосіф Іванавіч наведаў гэтыя мясціны, дзе разам са сваім палком штурмаваў фашысцкія ўмацаванні. Там ён знайшоў і магілы землякоў-беларусаў з-пад Маладзечна: капрала Дамініка Мурашкі, радавых Вінцэнта Галавача, Станіслава Лешкі, Фульяна Паляцкага, Аляксандра Слуцкага, Міхала Вусіка, Тодара Такарэвіча... А колькі іх загінула ў баях пад Анконай, Балонняй, на Адрыятычным узбярэжжы і ў Паўночных Апенінах...

...Кавалера "Італьянскай зоркі", англійскага медаля Абароны, Іосіфа Жамойдзіна запрашалі пасля перамогі застацца ў Італіі, у Англіі, прапаноўвалі жыць у Польшчы, але яго сэрца рвалася на Валожыншчыну, сваю радзіму, да роднай сям'і. І ў верасні 1947 года Іосіф Іванавіч нарэшце ступіў на родны парог. Здавалася, усё цяжкае і пакутлівае засталося ззаду. А аказалася — яно наперадзе: 27 мая 1950 года яго арыштавалі як англійскага шпіёна. Зноў, як і тады, да вайны, допыты, паклёпніцкія абвінавачванні і канчатковы прысуд — 10 гадоў турэмнага зняволення, 5 гадоў высылкі і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Жонку з дзецьмі, як сям'ю былога ваеннаслужачага арміі Андэрса, выслалі на спецпасяленне ў Іркуцкую вобласць. Не пашкадавалі нават трохгадовага сына Дзіму, які памёр па дарозе ў Сібір.

Семнаццаць гадоў пакутаваў Іосіф Іванавіч у сталінскіх лагерах. Другі раз спазнаваў жахі гулагаўскага пекла. А потым, калі выпусцілі на волю і рэабілітавалі, яшчэ і дома нацярпеўся ад мясцовых улад: не прапісвалі, не бралі на работу, глядзелі скоса, як на ворага. Здавалася, што пакутам не будзе канца: хоць ідзі ды вешайся... Але былы салдат і зэк выцярпеў. Пайшоў, нарэшце, працаваць на мясакамбінат, потым перайшоў рабіць на завод металаканструкцый, а калі выйшаў на пенсію, яшчэ трынаццаць гадоў (!) — на чыгунцы.

Цяпер яго часта запрашаюць на сустрэчы ветэранаў бітвы за Монтэ-Касіна. Ён, кавалер узнагарод трох дзяржаў — Італіі, Англіі і Польшчы, часта ездзіць у Італію, каб пакланіцца магілам сваіх братоў па зброі, якія ляжаць у італьянскай зямлі.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

г. Маладзечна.

# «БАЛАМУТЫ» ЕХАЛІ Ў АЎЦЮКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

гэта за літара "М", напісаная на ім перад назвай сталіцы?

Ну, дык гэта быў другі сюрпрыз: як высветлілася, населеных пунктаў з назвай Аўцюкі было два: Малыя і Вялікія. Прычым, у адпаведнасці з жартоўнай філасофіяй гэтых мясцін, Малыя Аўцюкі ажно на 70 двароў большыя за Вялікія. Прычым так склалася гістарычна: яшчэ ў 1870-м годзе, зазначае У. Ліпскі, у М. Аўцюках было 90 двароў, а праз сто гадоў — 547 і 1 802 аўцюкоўцы. У В. Аўцюках у тым жа годзе было 108 двароў, а вось праз сто гадоў — 381 і 1 693 аўцюкоўцы. Відаць, за бродам лепей здалося сяліцца, бо побач вілася рачулка прыгожая, Закаванка, і зямліца забалочаная гэта ўрадлівай была. А за полем, дзе Вялікія Аўцюкі, балота менш, ды там, мо, не так добра? Каб разабрацць іх, аўцюкоў гэтых! Усё ў іх неяк нязвыкла! Бадай, таму і людзі яны такія "анцярэсныя", як той Пецька, аб якім у сваёй кніжцы У. Ліпскі расказаў: "Пецька ўхапіў бацькаву пляшку са стала, пабег хаваці. Праз некалькі хвілін вяртаецца, узнёслы і светлы...

— Схаваў!.. Бацька гарэлку ніколі не знайдзе.

— Мне, сынок, сказаць можна, я не прагаваруся, — просіць маці.

— Ямачку пракапаў і выліў туды, — прызнаўся Пецька, — з бутэлькай бацька знайшоў бы самагонку, без бутэлькі — не знойдзе"...

Ну, калі ўжо хлапцы аўцюкоўскія такія знаходлівыя, дык што ж ад дарослых мужыкоў чакаць?! Так і адбылося, якіх толькі сюрпрызаў далей мы не ўбачылі! Ну, напрыклад, узоры наземнага транспарту, на якім кіруюць на фестываль мясцовыя музыкі. Вось Павел Шашолка з Вялікіх Аўцюкоў прыехаў на самаробным трактары, а зрабіў яго з інвалідскай каляскі. А чаго ехаў, не пехам ішоў, недалечка ж! Дык надта цяжкі апарат дастаўляў на агляд-конкурс — самагонны, уласнага вырабу. На ім працуе ягоная жонка і гатуе напой фірменны, людзі кажуць — як сляза і градусаў пад 300. Напой гэты тут называецца "весялуха". У першы дзень свята ўсе патрошкі яго паспрабавалі, калі пайшлі ў агледзіны па вёсках. Гэтыя агледзіны павяліся яшчэ з першага фэсту: надта ўжо гасцінным аўцюкоўцам хацелася госцікаў з усёй рэспублікі да сваіх хат зацягнуць, слоўкам перамовіцца, песню разам заспяваць, ну і, канешне ж, пахваліцца і заможнай, добра прыбранай хатай, і добраўпарадкаваным падвор'ем, і Калінкай сваёй, майстрыхай ды паварыхай адметнай.

Нам з "Баламутамі" выпала кіраваць па Малых Аўцюках, ды з кампаніяй, як кажуць, нявелькай, але моцнай: узначальваў шэсце сам бацька фестывалю Уладзімір Ліпскі, а побач з прыкметнай цікавасцю на тварах крочылі намеснік міністра культуры Валерый Гедройц, галоўны рэжысёр свята Пётр Гуд, палова членаў журы (другую палову зацягнулі да сябе вялікааўцюкоўцы), Мікола Чырык, дыктар Беларускага радыё, і вядомы "хахмач" Данат Яканюк з Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі са сваімі калегамі-аператарамі, і шмат featuring рознага люду з Магілёўскай і Мінскай абласцей.

Расцягнулі "Баламуты" мяхі гармонікаў, урэзалі ў бубны і жалейкі, і ўся грамада рушыла на шырокую і доўгую малааўцюкоўскую магістраль з назвай Савецкая. Вуліца, як сказаў Ліпскі, роўная і стромкая для ўсіх, а хаты — розныя. І жыццё ў іх — празнае, багатае і беднае, пакутнае і вясёлае, сытае і надгаладзь. Але сёння яна блішчэла чысцінёй, а ля кожнай хаты на плоце ззялі яркімі кветкамі ручнікі і посцілкі, спрацаваныя Калінкамі, стаялі сталы з пачастункамі, а побач — прыгожа прыбраныя гаспадары. Якія ж яны розныя: і малыя, і маладыя, і сталыя. Але найбольш — старых. Мяне зусім расчулілі тры маленькія сухенькія бабулькі, якія каля невялічкай хаткі працягнулі вяроўку і прыладзілі на яе столькі сваіх цудоўных вырабаў, што вяроўка тая моцна прагнулася. А яны ўсё завіхаліся побач, імкнучыся ўсё прыгожа развесіць і добра паказаць гасцям, бо гэта была іх праца, шматгадовая і карпатлівая. У гэтыя немудрагелістыя вырабы кожная з іх уклала і сваё сэрца, і свае мары, і сваё разуменне прыгажосці. А сёння быў такі выпадак, што можна ўсё гэта паказаць людзям, каб паглядзелі, каб ацанілі. І мы ацанілі гэта чуллівае відовішча, абкружылі тых бабулек сваім баламуцкім гуртом і сыгралі толькі для іх некалькі вясёлых беларускіх полек. А бабулькі раптам расплакаліся і, уціраючы канцамі хустак вочы, усё паўтаралі: "От, спасіба вам, дзеткі, от, спасіба!.." Гэта вам, бабулькі, дзякуй, бо не было б вас, не было б і нас. Вы — гэта і хлеб, і бульбачка на нашым гарадскім стале, вы — гэта прыгожыя беларускія ручнікі, калыханкі, песні. Дай вам, Божа, здароўя і доўгіх гадоў.

Ну а здзівіў усіх у Малых Аўцюках Уладзімір Дулуб: такую хату адбудаваў, такую гаспадарку спраўную стварыў, што журы аднагалосна прысудзіла яму першае месца. Узнагароды лепшым гаспадарам уручалі ў той жа вечар на сцэне ля мясцовай школы. І былі гэтыя ўзнагароды не абы-якія: і халадзільнікі, і дываны, і сервізы, і бытавая тэхніка. Словам, рэчы вартыя і патрэбныя ў гаспадарцы, так гаварылі ўсе прысутныя. Ну, а нам, "Баламутам", выпала самымі першымі даць канцэрт на фестывалі, і тут ужо мы пастараліся — так хацелася добра аддзячыць гаспадароў за іх гасціннасць. Да цёмнай ночкі доўжыўся канцэрт, і малааўцюкоўцы голасна і дружна падпявалі музыкам. І неяк мы нават і не заўважылі, што ўжо скончыўся першы фестывальны дзень, такі насычаны і непаўторны. Напэўна, адпаведную танальнасць яму задало ўрачыстае адкрыццё гумарыстычнага помніка Каласку і Калінцы. Вырабілі яго не з граніту ці мармуру, а з самай простай фанеры, а да зямлі прымацавалі вялізнымі камянюкамі акурат паміж Малымі і Вялікімі Аўцюкамі, на шашы, каб адусюль добра было відаць. Помнік, зразумела, таксама "з прыколам": на адным яго баку — маленькая Калінка і моцны дзядзька — Каласок, а на другім — Калінка — кабеціна "ў целе", з пышным караваем у руках, а побач — яе палова, шчупленькі такі Каласок, але з хітрай ухмылкай у сівых вусах ды з кілішачкам у руцэ. Ужо тут, на адкрыцці, байкі, жарты, анекдоты сыпаліся, як з рога, у якім усяго многа, і набеглыя раптам хмары, сыпануўшы трохі дожджыкам, хуценька кудысьці сплылі. Зразумелі, мабыць, што тут яны не да месца, тут сонцам ззяе весялосць. І што цікава: на працягу трох дзён дажджу не было, хаця ўсю дарогу з Мінска ў Калінкавічы нас суправаджаў моцны лівень. Так што ніякай замінкі, дзякуй Богу, на фестывалі не адбылося.



"Баламуты" ў Аўцюках.

Галоўныя ж дзеянні разгарнуліся ў суботу і нядзелю паміж Малымі і Вялікімі Аўцюкамі на ўзлессі за канавай ля дубоў. Але тут новы сюрпрыз: хочаш на свята трапіць, праходзь праз мытню. Тут усё абсталявана па-сапраўднаму: вароты, замкі, міліцыя, мытная служба з некалькіх рагочучых цётак, а далей масток бярозавы праз Закаванку, шлях на фестывальную паляну. Але на яго не ступіш, пакуль візу не выдадуць; выдаюць жа яе толькі, калі народ павесяліць здолееш: анекдот раскажаш, байку ці прыпеўку спяеш. Прызнаюся, пра мытню гэтую суровую нам яшчэ ў Мінску шапнулі свае людзі, дык "Баламуты" падрыхтаваліся, склалі аўцюкоўскія прыпеўкі. І кожны сваю праспяваў, ну, прыблізна так:

**"Як і ў Мінску, ў Аўцюках**
**Перад мостам ямка,**
**Як наедуць "Баламуты",**
**Будзе дзеўкам клямка!"**

ці

**"А ў мяне жонкі дзве,**
**А каб на іх ліха:**
**Адна ў Малых Аўцюках,**
**Другая — ў Вялікіх".**

Кабетам спадабалася, і нас прапусцілі, бо інакш прыйшлося б грошы кідаць у вялізныя шкляныя слоікі з надпісам: "Свае грошы не шкадуй, фестываль наш ратуй". А скуль у студэнтаў грошы? Але ж і ў слоіках тых добра было ўжо напхана "зайцоў": не шкадуюць тутэйшыя людзі на добрую справу.

Якія ж яны, тутэйшыя, мы добра спасцiглі ўжо на тым узлессі. Тут маштабна і шыкоўна разгарнуўся Петра-Паўлаўскі кірмаш. Якіх толькі пачастункаў на ім ні было! Вось куды трэба мінскіх кухараў на стажыроўку адсылаць, тады б і на нашых кірмашах, мо, такое разнасолле было б. Я, калі б была тэлеаператарам, прайшлася б з відэакамерай па ўсіх без выключэння гандлёвых радах і пастаралася б вельмі дакладна ўсё адлюстраваць і пакінуць гэта для гісторыі. Бо тое, што там выстаўлена было, — гэта не проста стравы, гэта сапраўдная творчасць, культура, майстэрства. Адным словам — смаката! Як той круценьчык найсвяжэйшай духмянай крывянкі, што я набыла і якую роўна праз хвіліну з апетытам знішчылі "Баламуты".

Побач з харчовымі вырабамі — цудоўныя вырабы народных майстроў, разьба па дрэву, саламяныя рэчы, ткацтва, карункі, вышыванкі, гліняны посуд. І ўсё зроблена рукамі мясцовых умельцаў.

Ды яны і не толькі такое могуць: ва ўсіх кутках лугавіны надаюць весялосці мясцовыя "жартоўныя брыгады". Вось брыгада паветрана-дэсантная, байцы ў ёй з вёскі Сырод, што непадалёк. Камандзір — загадчыца клуба Зіна Новік у танкавым шлеме і цяльняшцы, трымае ў руках вялікую бутэльку, з якой прапануе трохі глынуць. Мужык глынуў і вочы вытарапіў: "От, халера, дык у ёй жа градусаў сто!" А байцы брыгады, у салдацкіх ботах, з парашутамі і дапатопнай зброяй сур'ёзна адказваюць: "Гэта наш ўсенейтралізуючы боепрыпас, такая сакрэтная зброя, каб з цябе ўсіх мікробаў павыбіваць". Да слова, усе байцы — жанчыны.

А вось другая брыгада набліжаецца — медыкі і дантысты, што з Капліцкага сельскага Дома культуры. Тут ужо, людцы, прыйшлося ратавацца "Баламутам": як накінуліся абследаваць, дык хлопцы мае ўразумелі, што застануцца без рук, без ног. А ўжо што без зубоў — дык не сумнявайцеся, бо з такімі моцнымі слясарнымі, мабыць, у тры кіло вагой, абцугамі, дантысты тыя падступіліся, што ўцякалі "Баламуты" рыссю пад моцны рогат натоўпу. Непадалёк жа, ля вялізнага стала, яшчэ адна брыгада "вяселле па-аўцюкоўску" наладзіла. І тут сюрпрыз: малады — жанчына, у доўгай непадпяразанай кашулі, самаробных лапцях, але ж у гарадскім гальштуку і джэнтльменскім капелюшы. Замест букета кветак дорыць сваёй выбранніцы бярозавы венік. Што да дружак, дык адзін другога каларытней, а прыпевачкі вясельныя такія выдавалі, што на паперы не паўторыш. Вабіла, што ўсё гэта па-сапраўднаму смешная дзеянне, усе гэтыя непадражальныя "брыгады", якія надавалі асаблівы каларыт святу, створаныя тутэйшымі жыхарамі не па афіцыйнаму ўказу, а нарадзіліся ад іх жартаўлівасці, умення весяліцца самім ды іншых павесяліць. Таму і свята такім атрымалася — нефармальным, імправізаваным і таму яшчэ больш цікавым.

Што ж да "афіцыйнай" праграмы, дык праходзіла яна на дзвюх сцэнічных пляцоўках. Тут змагаліся выканаўцы баек, анекдотаў, прыпевак, свае конкурсныя праграмы паказвалі тэатры мініяцюр, музычныя і гульнёвыя гурты. З іграваімі праграмамі, у якія актыўна ўключалася публіка, выступалі масавікі-культработнікі, і асобна выступалі дзіцячыя гурты.

"Гудзелі пад панфары" ўсе азартна, імкнучыся перасягнуць адзін аднаго ў незвычайнай прыдумцы, яскравым смачным жарце, нават уласным уборы. Гудзёж гэты стаў сапраўдным карнавалам не горш за бразільскі. І членаў журы "пад панфары" пераапранулі: абулі ў лапці, надзелі панамкі ды ўзнагародзілі здаравенным ордэнам аўцюкоўскім, павесіўшы яго кожнаму на шыю за матузок. Ад іх жа патрабавалі таксама жарт, каб праверыць, а ці здольнае на гумар журы. Ну, тое, вядома ж, не падвяло, за што аўцюкоўцы ўзнагародзілі яго дружнымі апладысментамі. Ды і госці фестывалю — пісьменнікі, артысты ды нават і начальства — уключыліся ў спаборніцтва, у тым ліку і Павел Шыпук, старшыня Нацыянальнага Сходу Беларусі. Ну а "Баламуты" чыста ўсё праслухалі, бо ад сцэны не адыходзілі. Нас прызначылі паміж баечнікамі ды анекдотчыкамі запаўняць музычныя паўзы, што мы і рабілі з задавальненнем для такой цудоўнай публікі.

Два дні гудзела паляна на ўзлессі, а людзей было, што зярнят у сланечніку! Пад кожным кусточкам — абрусы-самаборы, усе частуюцца, спяваюць, смяюцца. Сапраўднае свята, якое з душы льецца. "Баламуты" ў нядзелю апошнімі выступалі, стаміліся чакаць, пакуль іх чарга да сцэны давядзе, пабралі гармонікі ды сталі ў цяньку пад велічэзным дубам. Толькі першую песню завялі так, для сябе, а тут народ да іх і пацягнуўся. Вядома ж, каго пакіне без увагі добрая народная песня. Заспявала грамада з "Баламутамі", а потым польку наладзілі, і вальс, і падэспань, а потым і шлягеры сучасныя, накшталт "Малінаўкі" і "Лодачніка" пайшлі. І такі тут, ля дуба, натоўп сабраўся, што тэлевізіёншчыкі падскочылі — вырашылі, што яшчэ адна канцэртная пляцоўка па праграме адкрылася. Але тут усё было не па праграме, затое шчыра, весела і без падману, ад душы. А калі час прыйшоў для конкурснага выступлення на сцэну ісці, дык пацягнулася ўся грамада за намі туды. "Мы, — кажуць, — цяпер вашыя фанаты". Можа іх апладысменты дапамаглі, а можа добры агульны настрой, але ж выступілі мы, як кажуць, "на ўра". А калі ўжо ў фінале праграмы "Карапэта" ўрэзалі з прыпеўкамі ды падтанцоўкамі, зрабілі нам фанаты нашыя сапраўдную авацыю.

Вось так "Баламуты" і атрымалі першую прэмію ды музычны цэнтр у падарунак. А спецпрыз — чатырохсоткілаграмовага чорнага быка з вянком з рамонкаў на рагатым ілбе атрымаў Калінкавіцкі РДК, які шмат папрацаваў, каб фестываль адбыўся. У ліку пераможцаў — тэатры мініяцюр з Баранавіч і Гродна, "Балаган" з Лепеля, "Карусель" з Мінска, фальклорны ансамбль "Люлеча" з Асіповічаў і "Забава" з Карэлічаў, прыпевачніцы Таццяна Гесьман, Алена Шавялёва і Раіса Пупко, анекдотчыкі І. Самахвалаў, Н. Захарэвіч, А. Кляшторны, В. Ткачоў, М. Сліва, В. Дружкоў, якія прыехалі з розных мясцін. Першае месца ў конкурсе гумарыстычных старонак, прысвечаных аўцюкоўскаму святу, заняла газета "Калінкавіцкія навіны". Наогул, прызоў было шмат, нават і такія, як велізарны мех сухога малака. Людзі за жываты хапаліся ад смеху, калі хлопцы, якім яны дасталіся, цягнулі іх са сцэны. А калі ўсіх узнагародзілі, галоўны зачыншчык свята У. Ліпскі з нейкім сумам сказаў: "Вось і дагуляліся. Здавалася, што тры дні — гэта багата. Думалі: ці хопіць гумару, жартаў, ці не стомяцца ногі. Не, тут было свята душы, свята радасці. І мы не гаворым фестывалю — бывай, мы гаворым: да новых сустрэч, Аўцюкі!" І мне здаецца, што кожны, хто быў тут на ўзлессі, ціхенька паўтарыў гэта для сябе: "Да новых сустрэч!" А "Баламуты", цяпер ужо лаўрэаты, паўтарылі гэта голасна, бо цяжка ўжо ўявіць, што больш не ўбачым мы гэтых канаваў і ўзлескаў, гэтых гасцінных аўцюкоўцаў і іх ашаламляльна цікавых "мэраў" — Н. Змушку з Малых Аўцюкоў і А. Баравіка — з Вялікіх, не пачуем смачных жартаў, не пачастуемся сцюдзёнай "аўцюкоўскай" вадзіцай, якую на фэст у агромністай цыстэрне прывёз "вадавоз" В. Піліпенка, не пабачым новых аўцюкоўскіх сюрпрызаў. Жывіце, Аўцюкі, смейцеся, баламуцьце, а разам з вамі і нам жыць радасней!

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ.**

*З МАЙГО АРХІВА*

# ДБАЙНЫ ЗНАЁМЦА

У маім хатнім архіве ёсць тоўстая папка з надпісам: "Мікола Шыманка". Там знаходзяцца карэктурныя лісткі энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала", выдадзенага ў год смерці М. Шыманкі — 1986. На адным з аркушыкаў — артыкул пра самога Мікалая Піліпавіча. Але і сціслыя звесткі пра Купалавага знаёмца не трапілі ў кнігу, таму дазволю сабе тэкст тае карэктуры прывесці поўнасцю:

ШЫМАНКА Мікалай Піліпавіч (н. 1901), інжынер. Знаёмы Я. Купалы. Скончыў Пражскі політэхн. ін-т (1931). Пазнаёміўся з Я. Купалам вясной 1916 на лесараспрацоўках недалёка ад чыг. ст. Баразуха (Полацкі р-н), дзе пад кіраўніцтвам Я. Купалы (у той час прызванага ў армію ў якасці старшага рабочага дарожна-буд. атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін) працаваў лесарубам. Сустракаўся з Я. Купалам у 1927, калі суправаджаў бел. паэта і яго жонку з Прагі да Карлавых Вараў, і ў 1931-34 у Мінску. Знаходзячыся ў Чэхаславакіі ў 1927-31, перапісваўся з Я. Купалам (лісты не зберагліся). Аўтар матэрыялаў, прысвечаных жыццю і творчасці Я. Купалы ў чэш. газетах і часопісах "Rude Pravo" ("Чырвонае права"), "Cyn" ("Справа"), "Domou a svet" ("Дома і ў свеце"). У арт. "Янка Купала (Луцэвіч)" пісаў: "Купала мае для беларусаў такое самае значэнне, як Тарас Шаўчэнка для ўкраінцаў, Міцкевіч — для палякаў, Пушкін — для рускіх" ("Rude Pravo", 11.8.1927). Пра творчасць бел. нар. паэта пісаў у арт. "Сучасная беларуская літаратура" ("Cyn", 1929-30, № 1). Адзін з арганізатараў вечара-канцэрта з нагоды 25-годдзя літ. дзейнасці Я. Купалы ў Празе ў ліп. 1930 для рабочых і служачых, а таксама бел., укр., чэшскіх студэнтаў (усяго каля 400 чалавек). На вечары з дакладам аб ролі і значэнні паэзіі Я. Купалы для бел. народа выступіў З. Неедлы, студэнты Саюза грамадзян БССР, у т. л. і Ш., дэкламавалі вершы паэта. Напісаў успаміны "Мае сустрэчы з Янкам Купалам". Меў фотакартку, І-ы і ІІ-і тамы Зб. твораў паэта з дарчымі надпісамі. Захоўвае групавы фотаздымак бел. пісьменнікаў (сярод якіх і Я. Купал) з бел. студэнтамі ў Празе ў 1927. Жыве ў Гродне.

Згаданыя ўспаміны былі апублікаваны мною толькі 4 ліпеня 1997 года ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Барацьбіт за камуністычныя ідэі ў Чэхаславакіі, М. Шыманка быў рэпрэсіраваны носьбітамі гэтай ідэі ў Савецкім Саюзе. Страціўшы сваіх братоў на лёсапавалах, ён знайшоў на ГУЛАГаўскіх прасторах сяброўку жыцця Клаўдзію Іванаўну, якая і правяла яго ў апошні шлях.

Чалавек няўрымслівага характару, Мікола Піліпавіч напрыканцы жыцця паспрабаваў ваяваць і з вялікімі ветракамі. 28 жніўня 1985 года ён пасылае пісьмо ў Маскву на імя генеральнага сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова. Узнаўляю з таго ліста некалькі абзацаў: "Калі быў у 1966 годзе ў Празе, я атрымаў пацверджанне аб здрадніцтве Фучыка і фальшывым "Рэпартажы" ад жывых сведкаў, удоваў: Людмілы Ванчуравай і Ярославы Вацлаўковай, дэрэктара музея чэшскай літаратуры на Страгаве (Градчаны). Гэтыя жанчыны страцілі любімых мужоў, а чэшская літаратура — таленавітых пісьменнікаў Уладзіслава Ванчуру і Бедржыха Вацлавека.

(...) З Фучыкам я асабіста быў знаёмы з 1925 г. Ён у нас, беларускіх студэнтаў, лічыўся афіцыйным рэдактарам студэнцкага часопіса "Прамень". Так як ён выдаваўся друкарскім спосабам, паводле закона рэдактарам павінен быў быць грамадзянін Чэхаславакіі.

Я люблю чэшскую літаратуру, і мне неабыякава, калі прэзідэнт ЧССР партыйную агітку, названую "Рэпартажам з пятлёй на шыі" спрабуе прадставіць савецкаму чытачу як пярліну чэшскай літаратуры (цыт. па публікацыі "Рудэ права", 12.2.1983), наўмысна ігнаруючы велікана чэшскай прозы Уладзіслава Ванчуру, расстрэленага гестапаўцамі па віне Фучыка (...)

Галоўная мэта запісаў ("Рэпартажа...") — абяленне Фучыка і ачарненне другога, менш вядомага камуніста Мірэка (псеўданім, сапраўднае прозвішча — Клецан Ярaслаў, 1914 года нараджэння)".

Адпаведнае рэагаванне Масквы (абкомаўскія званкі з пастрашкаю, візіты псіхіятра) мелі разбуральнае ўздзеянне на Міколу Піліпавіча. Як пазней сказала Клаўдзія Іванаўна, ён знішчыў усе астаткі архіва, што не паспеў перадаць у рэдакцыі і музеі Мінска.

А тое, што засталося на старонках газет і часопісаў, на фотаздымках, зробленых у чэшскіх бібліятэках М. Шыманкам, яшчэ паслужыць будучым даследчыкам. Мікола Піліпавіч сабраў усе звесткі аб публікацыях пра Купалу, вялікі іканаграфічны матэрыял аб акружэнні Купалы ў Чэхаславакіі, апісаў мясціны Купалавай прысутнасці. Так што ў абноўленым энцыклапедычным даведніку, які неабходна рыхтаваць да 120-годдзя з дня нараджэння песняра беларускага народа, перакладчык, папулярызатар творчасці Янкі Купалы зойме сваё належнае месца. У энцыклапедыі ж 1986 года ёсць толькі адзін артыкул, дзе мы выступаем як сааўтары. На той час большага спрыяння М. Шыманку я аказаць не змог.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**вучоны сакратар Літаратурнага музея Янкі Купалы.**

**Мікола ШЫМАНКА**

# РОЗДУМ АБ ПРАЗЕ-БРАНІКУ

*"...У вас тут у Празе маленькая Беларусь".*
**Янка Купала.**

Бранік — гэта паўднёвая акраіна Прагі. На правым беразе ракі Влтавы ён будаваўся раней, а гарыстая частка яго — пры нашай памяці. Тут узніклі прыгожыя з белай цэглы сямейныя домікі (вілы). Недалёка пляж. Па блізасці ніякіх заводаў. Насупраць Браніка на процілеглым беразе ракі, на высокай гары, — славуты Барандаў, дзе накручваюцца фільмы: там рэстаран, летам — танцы. Адным словам, Бранік — вельмі прыемнае дачнае месца. Жыхары ў асноўным — дробныя служачыя. Домікі будаваліся прыватнай фірмай і прадаваліся ў растэрміноўку. Транспарт — трамвай на набережнай частцы Браніка.

Я займаў невялічкі пакой на трэцім паверсе (мезанін) 2-х кватэрнага доміка пад № 425. Гаспадары — дзве сястры Свобадавы, якія працавалі ў нейкай фірме тэлефаністкамі. У іншых дамах жылі таксама беларусы-студэнты: Карповіч, Шавейка, Муха, Конюх, Жук, Пілецкі, браты Васільевы (з Латвіі) і інш. Украінцаў і рускіх тут не было.

У Празе жыло каля 10 тысяч рускіх эмігрантаў — студэнты, прафесары, вучоныя. Чэхі называлі іх калчакоўцамі і ўрангелеўцамі; а таксама каля 3 тысяч украінцаў (з усходняй і заходняй Украіны). Людзі гавораць: без няшчасця няма і шчасця. У дадзеным выпадку мы, беларускія эмігранты, змаглі атрымаць вышэйшую асвету дзякуючы існаванню рускай і ўкраінскай эміграцыі. Большасць чэшскіх рабочых эмігрантаў не любіла, бо было тады беспрацоўе. Аднак, калі ўзяць пад увагу, што многія легіянеры, якія з Расіі прывезлі рускіх жонак, а таксама вядомыя палітычныя дзеячы (Бенеш, Крамарж і інш.) жанаты былі таксама на рускіх, чэхі наогул адносіліся да русаў добра. А беларусаў і ўкраінцаў называлі русачкамі. Большасць чэхаў паняцця не мелі, дзе знаходзіцца Беларусь. Пра літоўцаў ведалі. У магазінах русачка прадаўцы абслугоўвалі без чаргі (чаргі, як у нас, ніколі не было).

* * *

Сяджу ў сваім пакойчыку, прыгатаўляюся да выпускных экзаменаў, якія павінны адбыцца ў сакавіку 1931 г. На стале ў рамцы стаіць фотаздымачак Янкі Купалы з аўтографам, а побач у адной рамцы фатаграфіі двух Міхасёў — Чарота і Зарэцкага, таксама з аўтографамі. Якімі яны былі прыгожымі, вясёлымі і простымі людзьмі, аднак ужо вядомымі на ўсю Беларусь і далёка за яе межамі. Бяру ў рукі першы і другі тамы Збору твораў Янкі Купалы з аўтографамі. Фатаграфію і кнігі я атрымаў у пачатку снежня 1927 г., а падпісаны яны былі: 1.12.1927. Бяру дату з успамінаў Фр. Ціхага, які таксама атрымаў гэтыя кнігі з аўтографамі паэта. Гартаю старонкі, чытаю не раз перачытаныя вершы: "Музыка", "А хто там



ідзе?", "Цару неба і зямлі". Апошні верш я дэкламаваў на вечары-канцэрце, прысвечаным 25-й гадавіне літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Канцэрт адбыўся ў ліпені 1930 года ў пражскім канцэртным зале. Даклад аб ролі Янкі Купалы для беларускага народа і стварэнні БССР зрабіў Здэнэк Неедлы. Я, Карповіч і Шавейка дэкламавалі вершы юбіляра. У канцэртнай частцы ўдзельнічала абсальвент Пражскай кансерваторыі — Аляксандра Мамонька (будучая нар. артыстка Літ. ССР Сташкевічуйтэ)[1], дзіцячы хор Бакулы. Вечар-канцэрт прайшоў з вялікім поспехам. На чэшскай мове былі надрукаваны запрашальныя білеты, якія пасылаліся выдатным чэшскім культурным дзеячам. Сярод ганаровых гасцей прысутнічалі саветнік савецкага прадстаўніцтва, ён жа консул Калюжны, пісьменнікі Гора, Сэйферт, Маерава, Адольф Чэрны[2] і інш. Публікі сабралося каля 400 чалавек. Канцэрт адбыўся за кошт савецкага прадстаўніцтва.

Верш "Цару неба і зямлі" заўсёды на мяне рабіў моцнае ўражанне. Цяпер, на вялікі жаль, яго нідзе не прачытаеш... А напісаны ён быў 24.12.1912 г. Як бачыце, яшчэ пры цары-бацюшку...

Можна законна ўсамніцца ў тым, як мог я запомніць праз 50 год, што ў мяне на стале ляжала. У гэтым памагла мая фотакартачка, знятая ў маі 1929 г. у маім пакоі. Картачку зберагла адна мая знаёмая жанчына...

Пасля заканчэння пражскага інстытута з дыпломам інжынера-агранома ў мяне быў намер пару гадоў пажыць у Чэхаславакіі, хоць атрымаць работу ў тыя часы беспрацоўя было цяжка. Аднак мой далейшы лёс вырашыла пражская паліцыя, якой мая "антыдзяржаўная" дзейнасць, мабыць, не спадабалася. Мне здавалася, што чэхаславацкая дэмакратыя, якая ў тыя часы была сапраўды адна з перадавых у Еўропе, і на мяне, эмігранта з Заходняй Беларусі, распаўсюджваецца. Я яшчэ не забыў 1923 г., калі папаў у Прагу нелегальна, без жадных дакументаў і грошай; ніхто мяне не чапаў, не цягаў у паліцыю. Майму здзіўленню не было канца. Мне памаглі легалізавацца, атрымаць жыллё ў інтэрнаце, харчавацца па талонах, уладкавацца на ўкраінскія курсы для атрымання атэстата спеласці, выхлапаталі стыпендыю. Усяго гэтага я дабіўся ў значнай меры дзякуючы дабраце дзядзькі Вяршыніна, які эміграваў з Беларусі ў Прагу яшчэ ў царскія часы. Мы яго празвалі беларускім консулам. Быў чэшскім грамадзянінам, ні да якіх партый не належаў, за доўгія гады жыцця на чужыне не забыў беларускай мовы. Адзін пакой яго кватэры ператварыўся ў канцылярыю, з якой адны выходзілі, другія прыходзілі; і так цэлымі днямі да позняй ночы.

Калі б мая дзейнасць, якая па сутнасці насіла чыста асветніцкі характар, была звязана з іншай партыяй, а не з камуністычнай, дык паліцэйскія агенты не звярталі б на мяне ўвагі [...]

У турме я прасядзеў да 29 верасня 1931 года — да суда, прыгаворам якога я быў асуджаны на 21 дзень і выпушчаны на волю. На другі дзень пасля суда мяне "запрасілі" ў паліцэйскае ўпраўленне і ўручылі мне распараджэнне аб маёй высылцы з Чэхаславакіі. На зборы далі 3 дні.

Усе савецкія грамадзяне з Прагі ехалі дамоў праз Варшаву. Аднак мне палякі ў візе адказалі. Прыйшлося бегаць за візамі ў нямецкае, літоўскае і лацвійскае пасольства. І кошт праезду ў тры разы даражэй, у разы чатыры далей ды з перасадкамі... А грошай няма. Пайшоў у савецкае прадстаўніцтва — адмовілі. Выратаваў мяне незабыўны Ёзэф Гора. Сам чуць канцы з канцамі зводзіў, аднак пазычыў мне на дарогу 200 крон, якія тады раўняліся каля 25 рублёў золатам... У 1967 годзе, будучы ў Празе, палавіну доўгу вярнуў жонцы Горы ў выглядзе падарункаў, а другая палова застаецца за мною, а мне ўжо 80 год. Гэта завецца "пазычыў"...

**НА ЗДЫМКУ: Мікола ШЫМАНКА (справа) і Антон ЖУК з паэтам Ярaславам СЕЙФЕРТАМ. Прага, 1966 г.**

---

[1] Шылу, Грыба, Мамоньку згадваў Янка Купала ў п'есе "Тутэйшыя". Аляксандра Сташкевіч была жонкай Іосіфа Аляксеевіча Мамонькі (1889—1937), студэнта Камерцыйнага інстытута ў Празе. Сама Аляксандра нарадзілася 25 снежня 1899 года ў Коўне. З Мамонькам пазнаёмілася ў Коўне, дзе сябра Беларускай Рады і Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады і прэзідыума Рады БНР разам з Грыбам і Бадуновай стварыў Бюро ЦК БПСР. У 1922—1924 гадах Аляксандра вучылася ў Пражскай кансерваторыі (клас сольнага спеву). У 1924—1928 гадах была слухачкаю музычна-педагагічнага аддзялення Украінскага вышэйшага педагагічнага інстытута імя М. Драгаманава (клас сольнага спеву). У 1936 годзе салістка Коўненскай оперы з поспехам выступала ў Чэшскай нацыянальнай оперы.

[2] Адольф Чэрны публікаваўся і пад псеўданімам Ян Ракіта. У 1926 годзе артыкул пра Янку Купалу і пераклады яго вершаў змясціў у друку пад псеўданімам Іржы Рубін. **(Заўвага С. Панізьніка).**

НАРОДНЫЯ МАЙСТРЫ



**Алена Гаўрык пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута прыйшла працаваць у лідскую школу з архітэктурна-мастацкім ухілам. Ужо сем год выкладае яна тут малюнак, жывапіс, лепку. А яшчэ захапляецца керамікай. Яе ўпрыгажэнні, шкатулкі, дэкаратыўныя пласты выкананы прыгожа, з найтанчэйшымі дэталямі і вызначаюцца выдатным густам. Мініяцюрныя фігуркі жывёлін жывуць як бы сваім асобым жыццём. У іх позах, манернасці чытаюцца характары. І гэта выклікае добрую ўсмешку.**

**НА ЗДЫМКАХ: кераміст Алена ГАЎРЫК і яе работа.**
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**



## ПАМЯЦІ ІВАНА ЧЫГРЫНАВА

У Мінску на вуліцы Пуліхава адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі з барэльефам Івана Чыгрынава і словамі: "У гэтым доме з 1977 па 1996 год жыў народны пісьменнік Беларусі Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў". Аўтарамі дошкі з'яўляюцца скульптар Генадзь Буралкін і архітэктар Яўген Кавалеўскі. На акдрыццё дошкі сабраліся блізкія Івана Гаўрылавіча, тыя, хто яго добра ведаў і сябраваў з ім. Прачулыя словы пра аўтара знакамітых раманаў з жыцця Верамеек і іх жыхароў у гады Вялікай Айчыннай вайны, шматлікіх апавяданняў, шэрагу драматургічных, публіцыстычных і літаратурна-крытычных твораў, актыўнага грамадскага дзеяча, патрыёта сваёй Бацькаўшчыны — гаварылі старшыня камісіі па захаванні творчай спадчыны Івана Гаўрылавіча Алесь Пісьмянкоў, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Зуёнак, старшыня Фонду культуры Уладзімір Гілеп, які на гэтай пасадзе змяніў І. Чыгрынава, вядомы літаратуразнавец, крытык, які адным з першых па вартасцях ацаніў напісанае І. Чыгрынавым, Уладзімір Юрэвіч...

## АДПАЧЫНАК НА МІНСКІМ МОРЫ





**У пачатку жніўня адбылося другое адкрыццё Беларускага комплекса "Юнацтва".**

**НА ЗДЫМКАХ: працуе дзіцячая пляцоўка; надзіманы атракцыён; прагулка па Мінскім моры.**



## ПЕРАПІСКА З ПРЭЗІДЭНТАМ ЧЭХІІ

Жыве і працуе ў суровым краі — на поўначы — наш пастаянны аўтар, выкладчык філасофіі і гісторыі Расіі дацэнт Аляксандр Пятруннікаў.

Гэты чалавек неабыякавы да ўсяго, што адбываецца не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Ён, мусіць, адзіны з краін Садружнасці мае перапіску з прэзідэнтам Чэхіі Вацлавам Гавелам.

Напярэдадні Каляд у мінулым годзе, калі ўсе інфармацыйныя агенцтвы свету паведамілі, што прэзідэнту Чэхіі "предстоит" складаная аперацыя ў сувязі з пагаршэннем здароўя, Аляксандр Емяльянавіч напісаў прэзідэнту цёплае пісьмо, у якім пажадаў паспяховай аперацыі і хуткага "восстановления" здароўя.

У сваім пісьме спадар Пятруннікаў напісаў таксама, што яго сям'я звязана з Чэхіяй даўно. Яго дзед па матчынай лініі Леанкоў Мітрафан Еўдакімавіч вучыўся ў пачатку гэтага стагоддзя ў вышэйшай аграномічнай школе ў Маравіі. Ён прывіў павагу не толькі сваім дзецям да Чэхіі, культуры гэтай дзяржавы, але і веданне мовы. "Мая маці Пятруннікава Фёкла Мітрафанаўна — сказаў Аляксандр Емяльянавіч, — ведала чэшскую мову..." Газета "Rude pravo" была ў гэтай сям'і жаданым госцем.

Аперацыя прэзідэнту прайшла нармальна. І дырэктар знешнепалітычнага аддзела канцылярыі прэзідэнта Чэхіі Паўла Сефтара прыслаў пісьмо ў Манчагорск, у якім ад імя Вацлава Гавела і яго сям'і сардэчна падзякаваў Аляксандру Емяльянавічу за ўвагу і пажадаў яму і яго родным усяго самага найлепшага.

Неўзабаве прэзідэнт асабіста напісаў пісьмо ў Манчагорск, у якім падрабязна распытваў пра жыццё спадара Пятруннікава, яго погляды і г. д.

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

### КРАЙ ДАРАГІ

*А. МАЛЬДЗІСУ*

Свяціцца наш край дарагі:
Тут сонца над ім, нібы німб,
І поўня над ім, нібы німб,
Тут зёлкі растуць ад тугі,
Дзе нашы жывуць карані
І б'е дабрыня з глыбіні...

Зноў туліць нас край дарагі,
Чырвоны рабінавы кут,
Дзяцінства лугі-берагі,
Юнацтва лясы-верасы.
Вясна сярод восені тут —
Чуваць салаўёў галасы...

### ПАМЯЦІ СЯРГЕЯ САХАРАВА

Спадар дырэктар, Полацка
ўраджэнец,
Культуры беларускай адраджэнец
У Латвіі. Паходню нёс асветы,
Што Беларусь жыве, даказваў свету,
Што нам дагэтуль светла. І сягоння
Мне бачыцца зара вось той паходняй.
Латвійская зямля хай будзе пухам,
Цярпліва нёс свой крыж асілак духу:
Працэсу ў 25-м вынес скруху
І ў 45-м ссылкі завіруху.
І там сваім лячыўся медазборам,
Сабраным у Латгаліі фальклорам...

...Запальваюцца зоркі, нібы свечкі,
А свечкі загараюцца, як зоркі.

### МАНАЛОГ РЫЦАРА

Шмат гадоў самааддана
Я шукаў па свеце — даму.
Нельга рыцару без дамы.
І яна мяне знайшла:
Мне пастукалася ў сэрца,
Адчыніла сэрца дзверцу
І ў яго ўвайшла зарою,
Зоркай блізкаю ўвайшла.

І каханнем азарыла,
І натхненнем абдарыла,
Трохі, праўда, абпаліла,
Толькі гэта не бяда.
Зараз мне ўжо, як без сэрца,
Не пражыць без дамы сэрца.
Я не дам яе у крыўду
Наступаючым гадам!

* * *

Цярпела маці крыўды ад дачкі,
Старэнькая, каб Бог забраў, маліла.
Калі ж памерла раптам,
На магілу
Дачка ўзваліла помнік ёй такі,
Нібы валун з душы сваёй зваліла...

### РОЙ

Уджаляць пчоламі парой
Мяне дзяцінства успаміны:
На нашай яблыні старой
Гудзе трывожна рой пчаліны,

На сук прысеўшы перад тым
Як нашу пасеку пакінуць,
Клубамі ўзняцца, быццам дым,
З вачэй праз нейкі момант знікнуць.

Я дымакур хутчэй нясу,
А мама — рэшата.
Нарэшце
Набраўся смеласці, трасу
Той з роем сук
І рой — у рэшаце!

Накрыўшы рэшата ураз,
Я адчыняю новы вулей,
І рой — туды.
— У добры час:
Спраўляйце наваселля гулі!

А мама кажа:
— Бог памог,
Так атрымалася ў нас спраўна.
Каб гэта бацька ўбачыць мог,
Які ўжо сын пчаляр сапраўдны!..

...Не стала пасекі даўно —
Вясёлай вёсачкі пчалінай,
Аднак бывае: раптам зноў
Уджаляць пчоламі ўспаміны...

## У ДАР — БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

Выдавецтва "Беларусь", працягваючы добрую традыцыю, выпусціла адрыўны каляндар "Родны край" (рэдактары-складальнікі Валянціна Балвановіч і Валянціна Кудзіна) на наступны, 1998 год. Прыемна, што наклад выдання прыстойны — 75 тысяч асобнікаў. Як звычайна, у календары можна знайсці самую разнастайную інфармацыю, што тычыцца розных бакоў жыцця. Пры гэтым звернута ўвага на юбілеі і памятныя даты. А іх у 1998 годзе нямала. Да прыкладу: будзем адзначаць 135-годдзе з дня пачатку паўстання 1863—1864 гадоў і 160-годдзе з дня нараджэння яго кіраўніка Кастуся Каліноўскага. Спаўняецца 80 гадоў, як была апублікавана "Беларуская граматыка для школ" Б. Тарашкевіча. 1998 год — гэта і 200-годдзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча, якое прыпадае на самы канец года, на 24 снежня. А яшчэ 85 гадоў назад у Пецярбургу члена гуртка беларускіх студэнтаў упершыню паставілі камедыю Я. Купалы "Паўлінка". Важная падзея — і 180-годдзе з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча. Не кажучы ўжо пра юбілеі сучасных беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў — і жывых, і тых, хто, на жаль, пайшоў з жыцця.



**КАЗА МАЯ, КОЗАЧКА...**

**Іх у васьмідзесяцігадовай крычаўскай пенсіянеркі Веры Акунёвай сем. Добры дадатак у гаспадарцы: заўсёды ёсць смачнае малако і брынза. Ды і жыць з імі весялей.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1205.
Падпісана да друку 25.8.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.